ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 16 (2574)

23 красавіка 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1500 рублёў.

*НАШЫ ГАРАДЫ*

## ЛАГОЙСК



Па якой бы дарозе ні ехаў у Лагойск, перад вачыма адкрываюцца цудоўныя, непаўторныя краявіды: узвышшы, лясістыя пагоркі, лагчыны, упрыгожаныя блакітнай стужкай ракі Гайны, раўчукоў, крыніц і люстэркамі вадаёмаў. Адным словам, адчуваюцца сапраўдныя швейцарскія матывы ў яго беларускім аблічча, апетым славутымі паэтамі Янкам Купалам і Нілам Гілевічам.

Краю наш любы нездарма прыцягвае позіркі шматлікіх ягаднікаў і грыбнікоў, турыстаў і падарожнікаў. Апошнім ёсць на што паглядзець і перад чым спыніцца, пачынаючы ад жалобных званоў Хатыні да маўклівых рэшткаў графскага палаца славутых Тышкевічаў на Замкавай гары.

Багаты на гісторыю наш Лагойск. Упершыню яго згадвае Уладзімір Манамах, які пісаў, па сведчаннях даследчыкаў, у 1078 годзе: "Пожег землю и повоевав до Лукамля и до Логожкска та на Дрьютьск воюя". Быў горад і цэнтрам удзельнага княства ў XII стагоддзі, дзе правілі князі Ізяслаў і Васілько Валадаравіч. Але найбольш праславіў Лагойск род Тышкевічаў. Канстанцін заснаваў музей, дзе экспанавалася 1 140 розных манет, 420 медалёў, вялікая колькасць гравюр, сцяг, захоплены

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## І ЗНОЎ ПРА НАС. БЕЛАРУСАЎ І БЕЛАРУСЬ...

*НА ПЫТАННІ ЖУРНАЛІСТА СЯРГЕЯ ШАЎЦОВА АДКАЗВАЕ САЦЫЁЛАГ СЯРГЕЙ ШАВЕЛЬ*

— *Сяргей Аляксандравіч, а што такое ментальнасць? Ці строга навуковае паняцце "нацыянальны характар"? Якія паміж імі суадносіны?*

— Увогуле паняцце "нацыянальны характар" уведзена ў навуковы абарот нямецкім псіхолагам В. Вунтам (1832—1920), які прысвяціў гэтай праблеме 10-томную "Псіхалогію народаў". Аднак параўнальны аналіз этнасаў вядомы з глыбокай старажытнасці. Так, Герадот, апісваючы скіфаў, адзначае іх любоў да канаплянай лазні, давер да прадказальнікаў, упартае непрыманне іншаземных звычак і інш. Зразумела, што гэта некаторыя адрозныя этнічныя прыметы. Аўтар, уласна, таму і звяртае на іх увагу, бо яны невядомыя альбо мала распаўсюджаныя сярод яго народа.

Нацыянальны характар — гэта сукупнасць устойлівых, інакш кажучы, тых, што перадаюцца ад пакалення да пакалення, псіхалагічных рысаў. Гэтыя рысы абумоўліваюць тыповыя спосабы паводзінаў прадстаўнікоў вось менавіта гэтага этнасу. Няшмат знойдзецца людзей, якія не адчуваюць, што іх зближае са сваім этнасам (родам, племем, нацыяй), а праз іх — са сваім краем, з памяццю продкаў. Бываючы за мяжой, чалавек не можа не задумвацца аб сваім адрозненні ад прадстаўнікоў іншых этнічных груп. Агульначалавечае не адмаўляе ні індывідуальнага, ні нацыянальнага. Яно не "над" альбо "звонку" чалавека, а ўнутры яго. Агульнае, па вызначэнню вядомага савецкага філосафа Э. Ільянкова, ёсць спосаб сувязі асаблівага і адзінкавага. Калі гэты спосаб агрэсіўны, атрымліваюцца расізм, фашызм і іншыя формы ўладарання, асіміляцыі іншых, калі талерантны, то — гуманізм, салідарнасць, інтэграцыя.

Ментальнасць — гэта тое, як чалавек успрымае свет, як ставіцца да сябе, іншых людзей, прыроды, да чаго імкнецца, у чым бачыць вышэйшы сэнс, а што, наадварот, лічыць забаронным як ва ўчынках, так і ў думках і намерах.

Ментальнасць — больш шырокае паняцце, чым нацыянальны характар. Ментальнасць больш дынамічная, рухомая. Напрыклад, сёння былая савецкая ментальнасць мяняецца, чаго не скажаш аб нацыянальным характары.

— *Ёсць думка, што некаторыя заўсёды ідуць да краю, але не да сутнасці. Ці можна падобнае сказаць пра нас?*

— Я перш заўважу, што няправільна ў роўнай ступені

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*СПАДЧЫНА*

## «ПРЫМІЦЕ, СЫНКУ, У РОДНАЙ МОВЕ»

Беларусы — таленавіты народ. Яны далі вельмі шмат выдатных дзеячаў не толькі для сваёй краіны. Іх імёны, іх справы вядомыя ва ўсім цывілізаваным свеце. Вось толькі на радзіме многіх з іх, калі не забылі зусім, то добра падзабылі.

Адзін з іх — паэт, публіцыст, фальклярыст, краязнавец Стары Улас. Чалавек самабытны, арыгінальны. У свой час яго вершы, публіцыстычныя творы нямала друкаваліся, перш за ўсё ў "Нашай ніве". Яны таксама побач з творамі Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Алеся Гаруна з'яўляліся ў "Беларускіх календарах", якія выдаваліся штогод, у іншых перыядычных выданнях. Аднак асобнай кнігай свету не пабачылі.

І толькі некалькі гадоў таму назад у серыі "Спадчына", заснаваный выдавецтвам "Мастацкая літаратура", чытачам прапанавалі зборнік паэзіі і публіцыстыкі Старога Уласа "Год беларуса". Падрыхтаваў яго да друку Вячаслаў Рагойша. Яму актыўна дапамагалі Генадзь Каханоўскі, краязнавец Генадзь Равінскі, бібліёграф Ніна Ляшковіч і іншыя.

Творчасць Уласа, як і любога пісьменніка, фарміравалася яго жыццёвым шляхам, асяроддзем, сваім часам. Нарадзіўся Уладзіслаў Пятровіч Сівы-Сівіцкі ў сакавіку 1865 года ў Валожыне ў сялянскай сям'і. Бацька працаваў кухарам у маёнтку графа Тышкевіча, памёр, калі Уладзіславу было дзевяць год. Неўзабаве памерла і маці. Выхоўваўся хлопчык у цёткі. Яго прынялі памочнікам кухара ў тым жа маёнтку, затым прызначылі кухарам. Пасля працаваў аб'ездчыкам, ляснічым у Валожыне, Сужанах (Літва), Ашмянах. На пенсію выйшаў у 1934. Памёр у канцы верасня 1939 у Шашэльгішках Віленскага павета ад запалення лёгкіх.

Такія асноўныя штрыхі біяграфіі паэта. Быццам знешне небагатае яго жыццё, але яно поўнае цікавых падзей, сустрэч з людзь-

(Заканчэнне на 7-й стар.).

**ДУХОЎНАЕ АЗАРЭННЕ ТАМАРЫ БАГДАНАВАЙ**





**У Палацы культуры чыгуначнікаў у Мінску працуе выстава работ мастачкі Тамары Багданавай. Яе творчасць па-свойму унікальная. Тэхніка выканання, у якой выкарыстоўваюцца і аб'ёмная вышыўка, і аплікацыі, макрамэ, дыванаванае і габеленавае ткацтва, уражвае тонкасцю.**

**У тэматыцы работ мастачкі многа ікон. Творчасць Багданавай выклікае жывую цікавасць гледачоў. Неўзабаве ў мастачкі адбудуцца сустрэчы з замежнымі гледачамі ў Бельгіі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Тамара БАГДАНАВА і яе праца "Узнясенне".**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

НАШЫ Ў ВІНДХУКУ

## ДЫЯЛОГ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ

**Дэлегацыя Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прыняла ўдзел у 99-й канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза, што праходзіла ў Намібіі. Дэлегацыю ўзначальваў старшыня Палаты прадстаўнікоў Анатоль Малафееў, які выступіў у агульнай дыскусіі па палітычнаму, эканамічнаму і сацыяльнаму становішчу ў свеце. Прадстаўнік нашай краіны ўпершыню выступаў у якасці дакладчыка перад удзельнікамі канферэнцыі, дзе былі прадстаўлены 137 парламентаў свету.**

**Па словах члена дэлегацыі сенатара Мікалая Чаргінца, Беларусь чарговы раз заявіла аб сабе як краіна, якая праводзіць паслядоўную палітыку, нацэленую на рэалізацыю ўсіх міжнародных дагаворанасцяў, у тым ліку ў галіне раззбраення і кантролю над узбраеннем.**

75-годдзе ВЯРХОЎНАГА СУДА



**15 красавіка адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 75-годдзю Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь. У яго рабоце прыняў удзел прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг. А Прэзідэнт Беларусі з гэтай нагоды накіраваў юбіляру сваё пасланне.**

**НА ЗДЫМКУ: Сяргей ЛІНГ уручае ордэн "Айчыны III ступені" суддзі Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь Наталлі САНЬКО.**

РОСТ ВУП

## 13 — ЛІЧБА ШЧАСЛІВАЯ

**Папярэднія даныя Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі аб працы народнай гаспадаркі краіны за студзень-сакавік 1996 года сведчаць аб значным яе эканамічным росце.**

**Так, паводле звестак міністэрства, рост валавога ўнутранага прадукту (ВУП) за гэты перыяд склаў у супастаўных цэнах 13 працэнтаў да ўзроўню першага квартала 1997 года. У фактычных цэнах аб'ём ВУП дасягнуў 102 944 мільярдаў беларускіх рублёў. Аб'ём прамысловай вытворчасці ў студзені-сакавіку 1998 года павялічыўся на 14,6 працэнта ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. Інвестыцыі ў асноўны капітал узраслі да 16 204 мільярдаў рублёў, што на 49,9 працэнта больш, чым у першым квартале 1997 года.**

ПА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ПРАГРАМЕ



**Напярэдадні сумнай для Гомельшчыны даты — дня чарнобыльскай трагедыі расчыніў дзверы новы дзіцячы сад у вёсцы Хальч Веткаўскага раёна. Арыгінальнае збудаванне, узведзенае па чарнобыльскай праграме, можа аднагасова прымаць 60 дзяцей малодшых груп і ўсіх вучняў мясцовай пачатковай школы, якім у старым будынку стала цеснавата.**

**НА ЗДЫМКУ: выхаванцы дзіцячага сада на прагулцы.**

ЛЮСТЭРКА

## БЕЛАРУСЬ — БЕДНАЯ КРАІНА?

**Эканамічнае становішча Беларусі ставіць перад жыхарамі рэспублікі цяжкія пытанні. Нядаўна сацыялагічная служба "Люстэрка" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН па заказу Прадстаўніцтва ААН на Беларусі правяла апытанне сярод 600 жыхароў Мінска. "Як бы вы вызначылі ўзровень свайго дабрабыту, дабрабыту сваёй сям'і?" — такое пытанне было пастаўлена перад мінчанамі.**

**Толькі пяць працэнтаў жыхароў сталіцы добра ацанілі сваё матэрыяльнае становішча, каля 55 — як сярэдняе. 32 працэнты заявілі пра сваю беднасць, а кожныя чацвёра са ста адзначылі, што крайняя беднасць, у якой яны знаходзяцца, — "гэта сапраўды крайнасць".**

**У гэтым жа даследаванні ў рэспандэнтаў запыталі: "Ці можна лічыць Беларусь беднай краінай?". 30 працэнтаў апытаных адказалі станоўча, 21 — адмоўна, а 40 трымаліся залатой сярэдзіны. Пры гэтым кожны другі згадзіўся з довадам, што рэспубліка без дапамогі міжнародных інвестыцый не зможа справіцца з праблемай беднасці.**

МВФ У БЕЛАРУСІ

## НОВЫ ПРАДСТАЎНІК

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг 15 красавіка сустрэўся з прадстаўнікамі Міжнароднага валютнага фонду на чале са старшым паўнамоцным прадстаўніком МВФ у нашай краіне Рычардам Хаасам.**

**У сустрэчы прымалі ўдзел міністр фінансаў Мікалай Корбут, міністр эканомікі Уладзімір Шымаў, іншыя адказныя асобы.**

**Рычард Хаас прадставіў кіраўніку ўрада старшага пастаяннага прадстаўніка МВФ у Літоўскай Рэспубліцы Адалберта Кнобла, які з 1 ліпеня гэтага года будзе па сумяшчальніцтву прадстаўляць інтарэсы гэтай арганізацыі і ў нашай краіне. Рычард Хаас падкрэсліў, што яго адкліканне ў Вашынгтон не паўплывае на характар супрацоўніцтва беларускага ўрада і Міжнароднага валютнага фонду.**

КРЫМІНАЛ



**Супрацоўнікамі міжрэгіянальнага аддзела па эканамічнай злачыннасці Віцебскага УУС у двух валютчыкаў у час продажу імі канфіскавана 100 мільёнаў беларускіх, 3,5 тысячы расійскіх рублёў і паўтары тысячы долараў ЗША. А ўсяго з пачатку года ў Віцебскай вобласці за незаконныя абменна-валютныя аперацыі да адказнасці прыцягнуты 53 чалавекі.**

**НА ЗДЫМКУ: оперупаўнаважаны аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Першамайскага РАУС горада Віцебска Ігар ШАЛАПУХА складае пратакол аб канфіскацыі грошай у валютчыкаў.**

У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ

## ПАМЕР АДМОЎНАГА САЛЬДА

**Прэзідыум Савета Міністраў на пасяджэнні, праведзеным 14 красавіка, падвёў вынікі знешнеэканамічнай дзейнасці рэспублікі за мінулы год.**

**Было адзначана, што рост экспарту дасягнуў 26,5 працэнта і ўпершыню перавысіў аналагічны паказчык па імпарту, які склаў 24,6 працэнта. У прыватнасці, аб'ём экспарту ў Расію павялічыўся на 53 працэнты, што дало магчымасць скараціць да мінімуму — 5,1 мільёна долараў ЗША — адмоўнае сальда ў гандлі з гэтай краінай.**

**Прэм'ер-міністр Сяргей Лінг падкрэсліў, што эканоміка Беларусі вызначаецца высокай ступенню адкрытасці: больш як палова валавога ўнутранага прадукту вывозіцца за межы краіны.**

ЕС — БЕЛАРУСЬ

## ГАТОЎ АКАЗАЦЬ ПАДТРЫМКУ

**"Развіццё дружалюбных адносінаў Беларусі з Еўрапейскім саюзам дапаможа ЕС аказаць падтрымку вашай краіне ў правядзенні рэформаў. Ва ўсякім разе, мы зробім усё, што ад нас залежыць, каб беларуская дзяржава стала працвітаючай". Аб гэтым заявіў кіраўнік прадстаўніцтва Еўрапейскай камісіі (ЕК) у нашай краіне Надзвычайны і Паўнамочны Пасол Андрэ Ванэвербек, уручаючы 16 красавіка даверчыя граматы Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку.**

**Кіраўнік беларускай дзяржавы адзначыў, што такой заявы з боку ЕС у рэспубліцы чакалі даўно. Ён пабяцаў са свайго боку аказваць усякае садзейнічанне прадстаўнікам Еўрапейскай камісіі ў Беларусі, каб іх работа была плённай. Аляксандр Лукашэнка выказаў надзею, што з боку Еўрапейскай камісіі і краін Еўрапейскага саюза ў адносінах да беларускай дзяржавы будзе больш разумення і канструктыўнасці.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ



**Хворае сэрца лечаць не толькі лякарствы, але і добрае слова, і добрая справа. Асабліва, калі гэта сэрца дзіцяці. Менавіта такую добрую справу зрабіў вядомы беларускі фотакарэспандэнт Юрый Іваноў. Ён перадаў у дар кардыялагічнаму аддзяленню 3-й дзіцячай клінічнай бальніцы Мінска выставу сваіх работ. Фатаграфіі ўпрыгожаць холы бальніцы.**

**НА ЗДЫМКУ: Юрый ІВАНОЎ перадае выставу галоўнаму ўрачу бальніцы Людміле КАЗАЧКОВАЙ.**

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

ЭКАЛАГІЧНАЯ міліцыя з'явілася ў Пінскім лясгасе. Тут уведзены ў штаты расклад міліцыянер. Гэта мера выклікана ростам парушальнікаў, якія грэбуюць правіламі паводзін у лесе.

У ЛЯСАХ Беларусі збіраюць бярозавы сок. Ужо "накапала" яго 1 600 тон. У "Белдзяржхарчпраме" лічаць, што сёлетняй вясной удасца назбіраць 4 тысячы тон бярозавага соку.

У МІНСКУ прыватызавана кожнае трэцяе прадпрыемства гандлю і палова прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання. 79 працэнтаў прадпрыемстваў грамадскага харчавання таксама маюць недзяржаўную форму ўласнасці.

БЕЛАРУСЬ займае першае месца ў свеце па вытворчасці бульбы на душу насельніцтва. На аднаго чалавека ў нас прыпадае каля тысячы кілаграмаў бульбы.

ТРЫ ГАДЫ назад у Беларусі дзейнічалі 1 300 турыстычных фірм, цяпер іх колькасць скарацілася да 600. Толькі 50 з іх займаюцца распрацоўкай унутраных турысцкіх маршрутаў.

НА СУСТРЭЧЫ ў Мінску прадпрымальнікаў украінскага паходжання, якія жывуць у нашай краіне, з прадстаўнікамі дзелавых колаў Беларусі былі абмеркаваны магчымасці адкрыцця ў нашай сталіцы ўкраінскага гандлёвага цэнтра, а таксама сеткі прадпрыемстваў грамадскага харчавання з украінскай нацыянальнай кухняй.

АФІЦЫЙНАЯ дэлегацыя авіятараў Беларусі прыме ўдзел у Сусветнай канферэнцыі па ўкараненні сістэм сувязі, навігацыі і назірання, якая адбудзецца ў маі ў Рыю-дэ-Жанейра.



**У Мінску пабывала вядомая французская спявачка Патрысія Каас. Яна дала канцэрт для сталічных меламанаў. П. КААС удастоілася гонару быць прынятай самім Прэзідэнтам Беларусі. Знаёмячыся з Мінскам, спявачка не абмінула музычны каледж пры Акадэміі музыкі Рэспублікі Беларусь.**

**НА ЗДЫМКУ: Патрысія КААС у час сустрэчы ў музычным каледжы.**

# І ЗНОЎ ПРА НАС. БЕЛАРУСАЎ І БЕЛАРУСЬ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

рабіць сучасным мінулае, як і мінулае аўтаматычна пераносіць у сучаснасць і будучыню. Не выпадкова ў чалавека ёсць памяць кароткая і доўгачасовая. Забыць ёсць сродак вызвалення ад перажытага, набыццё псіхічнай раўнавагі. Я сказаў бы так: першае нараджэнне чалавека як новага віду звязана з адмовай ад канібалізму, другое адбудзецца тады, калі людзі не змогуць забіваць адзін аднаго ні пры якіх абставінах.

Беларусы, па ацэнцы ўсіх суседзяў, народ спакойны, ураўнаважаны — адным словам, памяркоўны. Для нас усякая бойка — не жарт, а брудная справа; у вёсцы аматара боек героем не назавуць. У ваеннай службе беларусы стойкія, дысцыплінаваныя, цярплівыя, адказныя, з высокім пачуццём абавязку і калектывізму. Адзін з расійскіх генералаў адзначаў, што калі пайшлі беларусы, боегатоўнасць часці прыкметна знізілася. Паказная зухаватасць, неапраўданая рызыка, прыніжэнне малодшых, як і помста, — гэта нетыпова для беларуса. Служба ім успрымаецца заўсёды як работа.

*— У некаторых іншых народаў — вялізная тэрыторыя, яны маглі ўсё кінуць і пайсці з наседжанага месца. Беларусам ісці не было куды. Якія, на ваш погляд, рысы гэта дадало да нашай ментальнасці?*

— Перш за ўсё, уменне прыстасоўвацца да ўмоў і абставінаў, але і ўменне прыстасоўваць іх да сябе, як гаворыцца, пакрыху-паціху. Далей — цярпенне, што іншы раз тлумачаць як "пакорлівасць лёсу", на самай справе, гэта хутчэй здольнасць "трымаць удар" — не апускаць рукі пры няўдачах, не губляць галаву і г. д.

"Усё прыходзіць у свой час для таго, хто ўмее чакаць". Гэтыя мудрыя словы Л. Талстога лепш за ўсё выяўляюць такую чалавечую якасць, як цярпенне. Можна таксама адзначыць высокую працавітасць: зямля ж не вельмі ўрадлівая і патрабуе вялікай працы, укаранёнасць свядомасці, любоў да прыроды і малой радзімы, кансерватызм, нелюбоў да перамен, якія часцей за ўсё пагаршаюць становішча, замкнёнасць да сарамлівасці, вера ў прыкметы, якая ідзе ад назіранняў за прыродай, сентыментальнасць.

Разам з тым у ментальнасці беларусаў шмат летуценнасці і рамантызму. Гэтым, відаць, тлумачыцца тое, што па колькасці маракоў у саставе ўсяго насельніцтва сухапутная Беларусь знаходзіцца на ўзроўні марскіх дзяржаў...

Можна сказаць, што натуральны адбор замацоўваў такія этнічныя якасці, якія забяспечвалі жывучасць народа ў цяжкіх прыродных умовах і існавання ў саставе іншых дзяржаў на працягу многіх стагоддзяў.

*— А што вызначала беларуса ў сувязі з геаграфа-кліматычнымі ўмовамі?*

— Геаграфічны дэтэрмінізм як вучэнне аб вызначальнай ролі асяроддзя сёння лічыцца няправільным. Бо ўсе фактары дзейнічаюць у спалучэнні. Калі, напрыклад, чалавек у калгасе працуе інакш, чым на сваім прысядзібным участку, то клімат тут ні пры чым. Але гістарычна асяроддзе, вядома, аказвала ўплыў на фарміраванне пэўных якасцяў. Думаю, што па гэтаму параметру адрозненні паміж беларусамі і рускімі, ва ўсякім разе, еўрапейскай Расіі, не вельмі вялікія. У беларусаў таксама ёсць імпульсіўнасць як здольнасць напрэгчыся і потым расслабіцца, уменне прыстасоўвацца да прыродных цыклаў, запаслівасць, нарыхтоўка дароў прыроды і г. д. Адрозненне, можа быць, у тым, што ў нас дзякуючы магдэбургскаму праву, якое заахвочвала прадпрымальніцтва, а таксама блізкасці межаў Захаду, больш актыўна развіваліся рамёствы і сельскія промыслы, што давала занятак і ў міжсезонне. Але гэта ўжо не фактары геаграфічнага асяроддзя.

*— Зараз папулярны пункт погляду: мауляў, беларусы і рускія ёсць адзіны народ. Як вы да гэтага ставіцеся? У сэнсе, ці выглядаюць такія заявы карэктнымі з пункту погляду навукі?*

— Ну, зараз гэта думка не такая ўжо папулярная, але яна ёсць. Памятаю, на канферэнцыі ў Віцебску дацэнт Н. публічна даказваў, што хаця бацькі запісалі яго беларусам, але такога народа няма, і ён рускі. Бедныя бацькі. Калі мы адзін народ, то ці можа рускі чалавек зразумець без падрыхтоўкі, што такое "спадчына", "наканаванне", "лёс", "памяркоўнасць", "згода" і г. д.? Агульных слоў у нашых мовах не нашмат больш, чым ва ўкраінскай, балгарскай, сербскай, польскай і іншых славянскіх.

Можна ўзяць любое вызначэнне нацыі, хаця б вядомае сталінскае, і пераканацца, што ўсе яго прыкметы ёсць у беларускай нацыі (агульнасць тэрыторыі, мовы, псіхічнага складу, культуры і эканамічнага жыцця). Даследаванні псіхолага Л. Навуменка паказваюць, што сёння беларусы адзначаюць сваю нацыянальную прыналежнасць раней, чым прадстаўнікі іншых этнічных груп (па спецыяльных тэстах), што сведчыць аб росце нацыянальнай самасвядомасці.

Але аб'ектыўна такая пазіцыя ідзе не на карысць адносінам паміж нашымі народамі. Дарэчы, за пяць гадоў вучобы ў Маскве мяне ні разу не назвалі рускім дый зараз сябры і калегі ўспрымаюць гэту адрознасць як данасць.

*— Іншы пункт погляду: Беларусь — еўрапейская краіна, нам бліжэй Еўропа, чым Расія. У прынцыпе, калісьці так і было. Але ці можна так гаварыць сёння? Увогуле, ці можна заходнюю форму існавання механічна перанесці на нашу глебу? Прызнаюся, і я быў прыхільнікам падобнай думкі, праўда, цяпер разумею, што тут было больш эмоцый, чым ведаў...*

— Так, геаграфічна Беларусь — еўрапейская краіна, але культурна-гістарычна мы — частка ўсходнеправаслаўнай цывілізацыі, як яе называе А. Тойнбі. Перанесці заходнія формы жыцця на нашу глебу немагчыма і, галоўнае, не трэба. Але і адмаўляцца ад перадавога вопыту, асабліва ў галіне тэхналогій, ад удзелу ў міжнародным падзеле працы, узаемавыгаднага гандлю, гуманітарнай дапамогі і г. д., вядома, неразумна. Працэс інтэграцыі аб'ектыўны і карысны для ўсіх, важна толькі, каб захоўваліся інтарэсы бакоў, не ставілася пад сумненне незалежнасць дзяржаў, не цярпела культурнае развіццё народаў.

*— Кожная нацыянальная культура выпрацоўвае нейкую звышкаштоўнасць. Напрыклад, у амерыканцаў — поспех, у еўрапейцаў — проста ўстойлівасць жыцця, у рускіх — эмоцыі. Што выпрацавалі мы, калі такое мае месца?*

— Для нас такой звышкаштоўнасцю з'яўляецца талерантнасць. Гэтую катэгорыю часцей разумеюць у палітычным сэнсе, як заканадаўча ўстаноўленае права на іншадумства, рэлігійную цярпімасць, шматпартыйнасць, гатоўнасць улады дапусціць у канстытуцыйных межах дзейнасць апазіцыі. Але яна з'яўляецца (можа быць) таксама ўнутранай псіхалагічнай рысай асобы, элементам ментальнасці і сацыякультурнай характарыстыкай групы ці соцыуму. У такім значэнні талерантнасць праяўляецца ў наступных прыкметах: а) абвостраным пачуцці сацыяльнай справядлівасці; б) эмпацыі — як здольнасці паставіць сябе на месца іншага чалавека, зразумець яго і суперажываць; в) міласэрнасці; г) непрыманні агрэсіўнасці, ваяўнічага фанатызму ("абы не было вайны"); д) кампраміснасці ў вырашэнні канфліктных сітуацый.

Усе гэтыя рысы займаюць у ментальнасці беларуса цэнтральнае месца. Нас іншы раз называюць талстоўцамі за стыхійнае прытрымліванне прынцыпу "непраціўлення злу насіллем". І сапраўды беларус не стане адказваць на ананімку ананімкай, на кампрамат кампраматам. Ён хутчэй, калі ёсць магчымасць, пяройдзе на другі бок вуліцы. Супраціўляцца злу можна па-рознаму. Апостал Пётр здрадзіў Ісусу Хрысту за яго, як яму здавалася, заклік да непраціўлення. Але хрысціянства перамагло язычніцкі Рым не сілай, а дзякуючы адмове ад насілля. Талерантнасці нельга навучыцца з кніг: яна плод асабістага гістарычнага вопыту, перажытага і адчутага. Беларускі народ не выпрацаваў, а выпакутаваў гэту каштоўнасць і мае права разлічваць на ўзаемаразуменне.

*— Сяргей Аляксандравіч, а ў нас ёсць патрэба ў нацыянальнай ідэі? Можа быць, яна ўжо акрэсліваецца? Ну нельга ж за такую прыняць вяртанне да БССР. Мне здаецца, мы гэта ўжо прайшлі...*

— Нацыянальная ідэя — гэта жыццё нацыі як самавызначэнне і працвітанне. Паколькі класічнай формай самавызначэння нацый з'яўляецца дзяржава, то нацыянальная ідэя становіцца разам з тым і ідэяй дзяржаўнасці. Гісторыя сведчыць, што скажэнне простай і натуральнай нацыянальнай ідэі магчыма ў розных формах. Па-першае, шляхам раздування дзяржаўнасці на шкоду нацыянальнаму пачатку з дапамогай імперскіх лозунгаў і адпаведнай палітыкі. Па-другое, вялікадзяржаўным шавінізмам, накіраваным на дыскрымінацыю іншых нацый. Па-трэцяе, касмапалітызмам, які адмаўляе дзяржаўны і нацыянальны суверэнітэт, нацыянальную культуру, патрыятызм (грамадзянін свету і планеты). Па-чацвёртае, нацыяналізмам, які разумеецца як нацыянальная перавага і выключнасць, варожасць і прадузятасць да іншых нацый. Па-пятае, месіянскімі ідэямі аб тым, што тая ці іншая нацыя заклікана выратаваць іншых альбо ўвесь свет. Любыя скажэнні наносяць шкоду і свайму народу, і суседзям, і сусветнай супольнасці.

Нам сёння нацыянальная ідэя патрэбна як паветра. Дакладней, не сама ідэя — яна ясная і зразумелая: захаванне і працвітанне незалежнай нацыянальнай дзяржавы, — а нацыянальна-дзяржаўная ідэалогія, якая ўключае ў сябе навукова абгрунтаваны комплекс неабходных і дастатковых умоў для яе прымання масавай свядомасцю і практычнага ажыццяўлення — сёння і на стагоддзі.

Што перашкаджае? Назаву толькі адну з прычын. Гэта раскол, калі не грамадства, то масавай свядомасці. У пачатку 90-х гадоў частка людзей пайшла за дэмакратамі, іншыя засталіся з камуністамі (многія проста не вызначыліся). Але калі на парадак дня паўстала нацыянальнае пытанне, і тыя, і другія яшчэ раз падзяліліся. Апрача таго, узніклі партыі і рухі без пэўнага палітычнага твару, нібыта апалітычныя ("зялёныя", "аматары піва" і інш.) і нават яўна антыбеларускія, якія адмаўлялі суверэнітэт, на што дзяржава пакуль не звяртае ўвагі. Іншыя лініі расколу (рэформы, рэлігіі, вектар інтэграцыі, адносіны да ўлады і г. д.) далёка не заўсёды супадаюць з вышэйсказаным. Людзі заблыталіся: на якой жа ідэі можна аб'ядноўвацца ўсур'ёз і надоўга? Фундаментальнай ідэі і адпаведнай ідэалогіі, якія патрэбны для мабілізацыі, проста для псіхалагічнай пэўнасці, пакуль няма, ва ўсякім разе, у СМІ яна не праглядваецца.

Вяртанне да БССР, каб стаць адзінай у Еўропе краінай развітога сацыялізму? А як будаваць адносіны з суседзямі? Не, у адну рэчку двойчы нельга ўвайсці. Не выпадкова толькі адзін з пяці апытаных падтрымлівае гэту ідэю, а сярод моладзі менш як 5 працэнтаў...

*— Вось асаблівасць пэўнага менталітэту: верхняя кропка, ніжняя кропка — вертыкаль. Уверсе — храм, унізе — пекла. У нас такога, па-мойму, няма. Мы жывём як бы ўшыркі, вакол сябе. Вы не згодны?*

— Чаму ж, згодны. Гэта так. У невялікіх краінах, як і ў малых гарадах, у параўнанні са сталіцай людзі жывуць больш спакойна. Камусьці такое жыццё здаецца манатонным, хтосьці знаходзіць у ім асалоду. Вялікая айкумена, як называлі грэкі заселеныя тэрыторыі, патрабуе большага напружання, аховы, асваення, нараджае спакусы і г. д.

У гэтым і адрозненні. Але калі, напрыклад, амерыканцы перасяляюцца ў Швейцарыю, то значыць знаходзяць свае плюсы ў маленькай краіне. Кожнаму — сваё.

*— Кажуць, беларусы — знікаючая нацыя. Іншы раз здаецца, што гэта сапраўды так. Значыць, этнас прайшоў свой пік, пачалося яго затуханне? Гумілёў піша аб рэліктавых этнасах. Яны нібы закансерваваліся, таму што прайшлі ўсе фазы этнагенезу, але з-за нейкіх унікальных прычын не выміраюць. Гумілёў у якасці прыкладу прыводзіць іракезаў, індзейцаў Паўночнай Амерыкі. Да рэліктаў нас аднесці цяжка... Але мы што ж, проста асімілюемся, знікнем у больш моцным этнасе — рускім? Што нас чакае? Хаця б у якасці прагнозу...*

— Маленькія прыклады бываюць іншы раз больш пераканаўчымі, чым сур'ёзныя манаграфіі. У 1988 годзе ў нашай вёсцы на Гродзеншчыне аднавілі царкву, якую закрылі ў часы Хрушчова. Людзі збіралі іконы, кнігі. Адна жанчына прынесла "Кнігу ўліку споведзяў", была, аказваецца, і такая. З году ў год пра кожнага жыхара з васьмі вёсак парафіі запісаны час споведзі, прычына адсутнасці і іншае. Але што дзіўна: да 1924 года запісы рабіліся па-руску, з 1924-га па 1939-ты — па-польску. Падумайце, беларускія святары ў асяроддзі сельскага беларускага насельніцтва — далёка не фінансавы ўлік — не на роднай мове. Відаць, дзеля таго, каб дзяржаўны чыноўнік пры праверцы дакументацыі не напружваўся.

Асімілятарская палітыка праводзілася і Польшчай, і царскай Расіяй. Розніца толькі ў тым, што ў першым выпадку патрабавалася змяніць веру, што давалася з цяжкасцю, а ў другім — досыць засвоіць мову і, можа, крыху змяніць прозвішча.

У савецкі час стваралася новая супольнасць, новая нацыя, і ў гэтым працэсе нацыянальная своеасаблівасць, самасвядомасць усіх народаў, у тым ліку рускага, паступова выціскаліся на перыферыю. Наша рэспубліка і тут ішла наперадзе ўсіх. Была рэальная небяспека, што беларусы растворацца аднымі з першых, але часу не хапіла. Сёння такой пагрозы няма пры ўсіх цяжкасцях пераходнага часу. Расце нацыянальная самасвядомасць, праходзіць амнезія — аднаўляюцца гістарычная памяць, чалавечая годнасць. Наша псіхалагічная талерантнасць абараняе ад нацыянальнага экстрэмізму і дазваляе мірна жыць з суседзямі.

Моўная праблема будзе вырашацца прыкладна так, як у Швейцарыі. Для кожнага пісьменнага чалавека будзе справай гонару ведаць асноўныя мовы сваёй краіны. Так што пік развіцця беларускага этнасу, беларускай дзяржавы наперадзе. Галоўнае, каб жыццё было справядлівым і адкрытым, каб дзяржаўнае будаўніцтва вялося з улікам ментальнасці народа.

**("Звязда").**



## АДНОЎЛЕНЫ ХРАМ

**Аднавіць храм — справа святая. Некалі ў вёсцы Ліпнікі Драгічынскага раёна была драўляная царква, і калі б яна існавала, ёй хутка споўнілася б сто гадоў. Але, на жаль, нядобрая рука зрабіла з яе склад, а потым здарыўся пажар.**

**Старшыня мясцовага калгаса "Маладая гвардыя" Віктар Верамейчык і яго аднавяскоўцы ўзяліся пабудаваць новую царкву. І некалькі гадоў назад тут быў узведзены прыгожы каменны храм, які гарманічна ўпісаўся ў цэнтральны комплекс калгаснай сядзібы.**

**У прыходзе ліпніцкай царквы Успення Божай Маці — дзевяць вёсак. На Вялікдзень сабраліся людзі, каб разам адзначыць гэтае вялікае хрысціянскае свята.**

**НА ЗДЫМКАХ: прыхаджане Н. ГУК, К. РАМАНЮК, Т. МАРГОЛЬ, М. ДАНІЛЬКЕВІЧ рыхтуюцца да свята Вялікадня; прыгажосць храма радуе вока.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БеЛТА.**



# ЛАГОЙСК

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

ў шведаў, шабля і батфорты Пятра Вялікага і многае іншае.

Не раз лагойская зямля спусташалася. У 1505 годзе ўсё тут было разбурана ардой хана Махмед-Гірэя, у 1607 годзе — шведамі.

Але найбольшаму знішчэнню падвергся горад у час нямецка-фашысцкай акупацыі. Гітлераўцы поўнасцю спалілі і абрабавалі бальнічны гарадок, разбурылі ўсе прамысловыя прадпрыемствы, не пашкадавалі і палаца Тышкевічаў. На дзень вызвалення Лагойска колькасць яго жыхароў зменшылася больш чым напалову. І налічвалася тут меней тысячы чалавек.

Цяпер не пазнаць цудоўнага гарадка, які ўвабраўся ў шасціпавярховыя дамы, сучасныя катэджы, каменныя сценкі, якія ўпрыгожваюць тратуары, у маляўнічыя мікрараёны з густымі зялёнымі насаджэннямі, што захаваліся ў цэнтры старажытнага парку каля Замкавай гары. Вызначаецца Лагойск сваімі адметнымі крынічнымі водамі. Рэдка які прахожы міне звонкія ручайкі чысцюткіх празрыстых крынічных вод, што сцякаюць з-пад царквы ў Гайну.

І па колькасці насельніцтва вырас Лагойск у 10 разоў.

Адным словам, Лагойск, як добры чалавек, прымае гасцей з шырокімі абдымкамі, і для многіх ён становіцца родным назаўсёды, дзе, дарэчы, знайшлі прытулак і шмат "чарнобыльцаў", якія шукалі ратунку ад радыяцыі.

**Т. НАРАЧАНСКАЯ.**

**На здымках Віктара СТАВЕРА сучасны Лагойск.**










*НАМ ПІШУЦЬ*

# ЯК ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ РЫГІ

У лістападзе мінулага года таварыствам беларускай мовы "Прамень" горада Рыгі была арганізавана вечарына, прысвечаная 115-й гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа. Паведамленне аб жыцці і творчым шляху паэта цудоўна зрабіла яго ўнучка, якая родам з Мікалаеўшчыны, Ніна Вінакурава. Жыве яна цяпер у Мінску і працуе ў Раённым аддзеле народнай адукацыі.

Для выставы твораў Якуба Коласа з Мінска былі прывезены рэдкія кніжкі паэта і яго сваякоў. Дарэчы, яшчэ адна ўнучка паэта, родная сястра Ніны Вінакуравай, Алёна Міцкевіч, жыве ў Рызе. Яна працуе завучам адной з рускіх школ горада Рыгі і з'яўляецца старшынёй рады ТБМ "Прамень".

Пасля цікавых паведамленняў Ніны Вінакуравай сябры таварыства чыталі вершы Якуба Коласа і ўрыўкі з паэм "Новая зямля" і "Сымон-музыка". Усе чытанні вяліся па памяці і з такім пачуццём і натхненнем, што адчувалася вялікая павага да творчасці паэта, у якой яскрава падкрэслівацца любоў да роднага краю і яго прыроды, з такой пяшчотай і замілаваннем, што кранала душу слухачоў. Беларусамі замежжа гэта тэма ўспрымаецца асаблівa шчыра. Вось, напрыклад, як Якуб Колас у паэме "Сымон-музыка" апавядае пра раннюю вясну.

**Быў якраз пачатак мая.**
**Ну й была тады вясна!**
**Ось такая, што бывае**
**Можа ў сотні лет адна:**
**Было ў меру ўсё і ў пору:**
**Дожджык пройдзе, зноў цяпло,**
**Травы, краскі гнала ўгору**
**На прастору, на святло.**
**Выйдзеш з хаты на дасвеце,**
**Так і піў бы дух зямлі,**
**І раслі б, здаецца, дзеці,**
**Каб іх кінуць на раллі.**
**А дзянёчак як настане,**
**Тая ранічка вясны!**
**Кропля роскі на каштане**
**Блеск запальвае дзіўны;**
**У ёй зорчын смех блукае,**
**І вясёлкі ў ёй дрыжаць,**
**А лес радасцю гукае,**
**Шчасцем вее сенажаць.**
**А вакол так ціха-гожа,**
**А паслухаеш, чутно,**
**Як расце трава і збожжа —**
**Ніваx свежае руно.**
**І з зямлі празрыстым парам**
**К небу ўзносіцца туман,**
**Як малітва сонцу, хмарам,**
**І дрыжыць, гарыць пажарам**
**Скат узгоркаў і курган.**
**Ну, вясна была на дзіва!**

Чытанні выступаючых суправаджаліся музыкай з беларускіх народных песень у выкананні нашага юнага скрыпача. Дарэчы, ён з'яўляецца пераможцам конкурсу юных скрыпачоў горада Рыгі. А наша маладая салістка, якая падае вялікія надзеі, Ілона Варатнікова выконвала песні, напісаныя на вершы Якуба Коласа. Нашага юнага скрыпача, Аляксея Калеснікава, мы жартам ахрысцілі Сымонам-музыкам, бо зачараваў ён усіх сваёй ігрой.

На завяршэнне вечарыны наш ансамбль "Надзея" зрабіў невялічкі канцэрт, які сумесна падрыхтавалі настаўнік музыкі Рыжскай беларускай школы Сяргей Калеснікаў і мастацкі кіраўнік ансамбля Зоя Кальвіш. Прысутныя разышліся задаволенымі і пажадалі, каб такія літаратурныя вечары праводзіліся часцей. Удала вёў вечарыну старшыня таварыства Мікола Буры. З гасцей прысутнічала даўні наш сябра, перакладчыца з беларускай мовы на латышскую, складальнік латышска-беларускага слоўніка Мірдза Абала.

А ў студзені гэтага года цудоўна адсвяткавалі абрадавае свята "Каляды", якое сумесна ладзілі ТБК "Світанак", ТБМ "Прамень" і ансамбль "Надзея". Свята праводзілася ў памяшканні Рыжскай беларускай школы. Абрад калядавання быў выкананы ансамблем "Надзея".

Працавала кавярня, арганізаваная з нацыянальным беларускім густам настаўнікамі школы. Гучалі беларускія песні, жарты. Арганізавана латарэя, былі і розныя гульні. Свята прайшло вельмі цікава, з беларускай гасціннасцю, добразычлівасцю, ну як адной сям'ёй. Гучалі прапановы, што і далей трэба так сумесна праводзіць святы. На вялікі жаль, памяшканне ў беларускай школе невялічкае, і ўсіх жадаючых удзельнічаць у гэтым традыцыйным свяце для беларусаў Рыгі змясціць было немагчыма. Не хапае беларусам Рыгі цэнтра беларускай культуры, для адкрыцця якога няма ніякай дапамогі ні ад урада Латвіі, ні ад урада Беларусі. Чатыры класы беларускай школы ўціснуты ў чатыры невялічкія пакойчыкі дзіцячага садзіка. Вось так і трымаемся.

***Алесь КАРПОВІЧ,***
***старшыня Латвійскага фонду беларускай культуры.***

# РУХ ФІЛАМАТАЎ РАСЦЕ

Грамадскі навукова-аналітычны цэнтр "Беларуская перспектыва" разам з Інфармацыйна-адукацыйным цэнтрам Віцебскай філіі Беларускага рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі завяршыў пяцімесячны асветніцкі праект — Народны універсітэт. Праграма нефармальнай навучальнай установы складалася з трох абавязковых курсаў (праблемы эканамічнага рэфармавання; паліталогія і геапалітыка; гісторыя Беларусі і нацыянальнай культуры), а таксама з васьмі спецкурсаў па выбару (прафсаюзны рух; праблемы "трэцяга сектара"; правы чалавека; мясцовае самакіраванне; жаночы рух; сродкі масавай інфармацыі; экалогія; маладзёжны рух).

У навучальным працэсе ўдзельнічалі звыш пяцідзесяці асоб, у пераважнай большасці — маладыя людзі. Выкладчыкамі універсітэта былі знаныя беларускія навукоўцы.

5 красавіка большасць студэнтаў паспяхова здала залікі і атрымала дыпломы філаматаў.

**Юрась СЦЯПАНАЎ.**

*НА ШЛЯХУ ДА ДЗЯРЖАЎНАСЦІ*

# АБАВЯЗВАЮСЯ СЛУЖЫЦЬ НА КАРЫСЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

22 кастрычніка 1919 года дэкрэтам Ю. Пілсудскага была ўтворана Беларуская вайсковая камісія (БВК), якая ў 1919—1921 гадах была спецыяльным органам па фарміраванню беларускіх часцей у Польскім войску. Аднак сёння, амаль праз восемдзесят гадоў, можна канстатаваць, што гісторыя яе дзейнасці не напісана і малавядомая шырокай грамадскасці. Фактычна, акрамя кнігі польскага даследчыка А. Латышонка "Беларускія вайсковыя фармацыі 1917—1923 гадоў" (1995 год) і артыкула ў ЭГБ беларускага даследчыка С. Рудовіча "Беларуская вайсковая камісія" (1993 год), ніякіх адмысловых прац не створана, калі не лічыць публікацый, дзе ў большай ці меншай ступені ўскосна разглядаецца дзейнасць камісіі альбо яе асобных сяброў. Таму хацелася б асвятліць адзін з важных перыядаў працы БВК, а менавіта: адбор жаўнераў-добраахвотнікаў на тэрыторыі Польшчы сярод беларускіх уцекачоў у кастрычніку 1920 — студзені 1921 гадоў.

Першапачаткова камісія была ўтворана 2 жніўня 1919 года ў Вільні Цэнтральнай Беларускай Радай Віленшчыны і Гарадзеншчыны паводле дамоўленасці з Начальнікам Польскай дзяржавы Ю. Пілсудскім, які праз паўтара месяца, 22 кастрычніка, ужо выдаў афіцыйны дэкрэт аб арганізацыі беларускіх падраздзелаў у польскім войску ў выглядзе двух пяхотных батальёнаў. Часці павінны былі фарміравацца на добраахвотнай падставе сумесна з польскім камандаваннем і зацвярджацца БВК. Камісія брала на сябе абавязкі вербаваць добраахвотнікаў і ажыццяўляць "нацыянальнае гадаванне войска" — выхоўваць у афіцэраў і жаўнераў адданасць справе нацыянальнага адраджэння. Сфарміраваныя часці меркавалася накіраваць на польска-савецкі фронт. У лістападзе камісія пераехала ў Мінск, адкуль пачала распаўсюджваць адозвы з заклікам уступаць у нацыянальнае войска для барацьбы за "волю, свабоду, незалежнасць і непадзельнасць нашай Бацькаўшчыны — Беларусі", вяла рэгістрацыю добраахвотнікаў. Аднак, як адзначае С. Рудовіч, "намаганні стварыць ва ўмовах акупацыйнага рэжыму беларускае войска не мелі сур'ёзных шанцаў на поспех. Польскія ўлады, дазволіўшы для прыкрыцця сваіх анексіяністцкіх планаў існаванне БВК, у сапраўднасці не жадалі стварэння ўзброеных аддзелаў, якія б надалі беларускай дзяржаўнасці рэальную сілу, таму фактычна пазбавілі камісію магчымасці ўплываць на іх фарміраванне". Наогул з сакавіка 1920 года распараджэннем польскага міністэрства вайсковых спраў вярбоўка і адбор добраахвотнікаў былі выключаны з кампетэнцыі БВК і перададзены мясцовым органам цывільнага ўрада ўсходніх земляў. Яны байкатавалі гэтую справу, а самі добраахвотнікі аказаліся дэзарыентаванымі і вельмі часта траплялі ў шэрагі Літоўска-Беларускай дывізіі Войска Польскага, лічачы яе сапраўдным беларускім войскам. Ды і сам прынцып добраахвотнасці ў гэты крытычны час рабіў больш шкоды, чым карысці. У выніку ўдалося скамплектаваць толькі адну беларускую пяхотную роту (кампанію), а па даных А. Латышонка, на пачатак ліпеня было завербавана толькі 150 жаўнераў і трохі больш афіцэраў. У тым жа месяцы пры эвакуацыі польскіх войскаў з Мінска ў сувязі з наступленнем Чырвонай Арміі БВК фактычна распалася і толькі 11 верасня пасля доўгіх перамоў была адноўлена ў новым складзе ў горадзе Лодзь (Польшча) з дазволам вербаваць добраахвотнікаў сярод уцекачоў з Беларусі ў паразуменні з камандаваннем Генеральнай акругі Лодзь.

Першапачаткова кіраўніцтва камісіі не спадзявалася на вялікі наплыў жадаючых, аднак, як аказалася, сярод беларускіх работнікаў у розных прамысловых цэнтрах Польшчы адшукалася значная колькасць тых, хто па розных прычынах пажадаў уступіць у шэрагі беларускага войска. Другую групу добраахвотнікаў склалі былыя афіцэры і жаўнеры. У выніку замест запланаванага аднаго батальёна прыйшлося фарміраваць яшчэ і другі. За гэты час БВК ужо выдала шэраг вайсковых статутаў на беларускай мове, па якіх рыхтаваліся залічаныя вайскоўцы.

Але гэтая актыўнасць працягвалася нядоўга. Ужо напрыканцы 1920 года стала зразумела, што савецка-польская вайна мажліва скончыцца падзелам Беларусі і беларускія батальёны не трапілі ні на савецкі фронт, ні да генерала Булак-Балаховіча, ні да І Слуцкай брыгады. А калі 18 сакавіка 1921 года была падпісана Рыжская дамова, польскія ўлады згодна з ёю мусілі расфарміраваць усе антыбальшавіцкія іншаземныя вайсковыя фармацыі на сваёй тэрыторыі. Беларускія батальёны падлягалі гэтаму з 15 траўня 1921 года.

Вось якраз вышэйзгаданы "апошні заклік БВК" у шэрагі беларускага войска і хацелася б прааналізаваць. Эвідэнцыйныя лісты (рэгістрацыйныя анкеты) добраахвотнікаў-жаўнераў БВК таго часу, якія захоўваюцца ў фондах БДАМЛІМ, дазваляюць зрабіць гэта даволі дакладна і выразна ўбачыць жаўнерскі склад батальёнаў, што дае, у сваю чаргу, у спалучэнні з іншай інфармацыяй на навуковай падставе ўявіць агульны характар беларускіх часцей і іх магчымыя перспектывы развіцця.

Эвідэнцыйны ліст складаўся з 37 пытанняў, размешчаных на 4-х старонках. Пытанні былі ў прынцыпе агульнавядомыя і стандартныя для вайсковых дакументаў. Сярод іх (парадак і фармулёўкі даюцца паводле арыгіналаў. — **В. А.**): Імя і прозвішча; дата нараджэння; месца (край, губерня, павет); вера; становішча; месца жыхарства перад паступленнем у войска, імя і прозвішча, становішча, ці прафесія, месца жыхарства бацькоў; стан (кавалер, жанаты, удавец, разведзены); скончаныя школы, навуковыя ўстановы, дзе калі і з якім вынікам; уладанне мовамі (спраўна піша, чытае); апісанне рысаў; прызваны на службу; улучаны ў войска; рэзультат лекарскага агляду (шырыня грудзей у цм, вага цела ў кг, шпаркасць узгляду, шпаркасць слыху); ці належаў да беларускага руху і беларускіх арганізацый; перабытыя бітвы і іншыя важныя справы і шэраг іншых пытанняў. Некаторыя пункты ў лісце, пэўна, былі разлічаны на перспектыву: дата залічэння да Краёвай абароны (адсюль, мусіць, і карані вядомай БКА ў другой сусветнай вайне. — **В. А.**); дата залічэння да паспалітага руху. Кожны прыняты павінен быў распісацца за праўдзівасць звестак, і гэты подпіс уласнаручна завяраў камандуючы Беларускага войска альбо ягоны ад'ютант.

Аб чым сведчыць аналіз асноўных пытанняў анкет 78 добраахвотнікаў, залічаных напрыканцы 1920 — на пачатку 1921 гадоў? Даследуем згодна з анкетным парадкам.

Хараналогія набору сведчыць, што амаль з першых дзён знаходжання БВК у Польшчы яна пачала актыўную вярбовачную працу, але ў кастрычніку былі запісаны толькі 6 чалавек, найбольшы прыток быў у лістападзе. У гэты час, пэўна, звесткі аб камісіі распаўсюдзіліся сярод уцекачоў. Гэта прывяло да таго, што амаль штодня запісвалася ад 1 да 10 чалавек, і, як вынік, за лістапад белбатальёны папоўніліся на 56 чалавек. У снежні 1920 і студзені 1921 гадоў колькасць жадаючых рэзка зменшылася, і было запісана адпаведна 9 і 4 чалавекі. Прычыны гэтага ўжо адзначаліся.

Па ўзросту гэта была фактычна моладзь да 30 гадоў. Звыш гэтага было толькі чатыры чалавекі, старэйшаму — 35 гадоў. Сярэдні ўзрост 26 гадоў. Цікава адзначыць, што сярод залічаных быў і зусім малады хлопец пятнаццаці гадоў. Як запісана ў лісце, ён быў з Гародні, вучыўся ў гімназіі, не меў бацькі і быў "малога росту". Як ён трапіў у батальён, невядома, бо згодна з інструкцыяй БВК, юнакі, маладзейшыя за 18 год, прымаліся толькі з пісьмовага дазволу бацькоў, але ваеннае становішча, мусіць, значна спрасціла інструкцыі.

Па свайму месцу нараджэння 64 чалавекі (82 працэнты) былі з беларускіх губерняў, сярод іх 33 (42 працэнты, амаль палова) з Гарадзенскай. Астатнія 14 (18 працэнтаў) з Расіі: Бранскай, Цвярской і нават Самарскай і Уфімскай губерняў. Неабходна адзначыць, што прыблізна са снежня ў БВК пайшлі ў асноўным ураджэнцы Гарадзеншчыны і часцей каталікі.

Усе добраахвотнікі былі вернікамі: 62 чалавекі (79 працэнтаў) — праваслаўныя, 13 (17 працэнтаў) — каталікі і толькі трое былі нехрысціянамі — 2 мусульманіны (магаметане) і 1 іудзей (веры Маісеевай).

Сацыяльнае паходжанне жаўнераў было традыцыйным для беларускіх губерняў: 41 чалавек (52,5 працэнта) займаліся сялянскай гаспадаркаю да запісу ў войска, акрамя таго 31 чалавек (40 працэнтаў) былі рабочымі, 4 (5 працэнтаў) — службоўцамі, а 2 (2,5 працэнта) — вучнямі гімназій. Але амаль усе яны нарадзіліся ў вёсцы, аб чым сведчаць адказы на пытанне "Праца бацькоў". 55 чалавек (70 працэнтаў) адказалі — хлебаробы. У 13 чалавек (16 працэнтаў) памёр адзін або абодва з бацькоў, што пэўна паўплывала на іх выбар вайсковай службы.

Маладосць асабовага складу не робіць дзіўным той факт, што 64 чалавекі (82 працэнты) былі кавалерамі (халастымі) і толькі 14 (18 працэнтаў) — жанатыя.

БВК імкнулася набіраць больш-менш пісьменных жаўнераў, і таму, нягледзячы на даныя вядомага беларускага географа А. Смоліча, што на пачатку XX стагоддзя на Беларусі было 65 працэнтаў непісьменных і толькі 35 працэнтаў пісьменных, аналіз лістоў парушае гэтую прапорцыю. Сярод добраахвотнікаў малапісьменных і непісьменных было 21 чалавек (27 працэнтаў), адпаведна 10 (13 працэнтаў) і 11 (14 працэнтаў), а пісьменных — 57 (73 працэнты). Большасць апошніх мела 2-гадовую адукацыю царкоўна-парафіяльных школ — 43 (75 працэнтаў), але некаторыя паспелі скончыць 4—5 класаў гімназіі, а адзін нават сярэднюю гідратэхнічную школу.

Становішча нацыянальнай мовы заўсёды было вялікай праблемай беларускага войска. БВК прынцыпова праводзіла курс на выкарыстанне беларускай мовы, выдавала ў ёй шматлікія статуты і рэгуляміны. Але калі глядзець па анкетах, новае папаўненне не прынесла палёгкі ў гэтай справе. Толькі 55 чалавек (70 працэнтаў) размаўлялі або разумелі па-беларуску, 23 жаўнеры (30 працэнтаў) разумелі толькі па-расійску. Былі і асаблівасці. Так, зусім не размаўлялі па-расійску 10 чалавек (13 працэнтаў), ведалі толькі беларускую мову — 5 чалавек (7 працэнтаў), па-польску разумеў 31 чалавек (40 працэнтаў). Два расійскія татарыны, якія невядома як трапілі ў Польшчу, ведалі толькі татарскую і расійскую мовы, юны жаўнер з Гародні — французскую, нямецкую і расійскую, а вясковец з Украіны — украінскую, беларускую і расійскую. Наогул, мяркуючы па лістах, добраахвотнікі з Заходняй Беларусі ў асноўным ведалі беларускую, беларускую і польскую, беларускую, польскую і расійскую мовы, з Цэнтральнай — беларускую, расійскую, беларускую і расійскую, з усходніх абшараў краіны часта пісалі аб веданні расійскай (пэўна, лічачы часам за яе беларускую), зрэдку беларускай, не гаворачы ўжо аб ураджэнцах менавіта расійскіх губерняў.

Нягледзячы на ваенны час, пераважная большасць — 71 чалавек (91 працэнт) не мела баявога досведу, не служыла раней у войску. Толькі 7 чалавек (9 працэнтаў) былі вайскоўцамі да 1920 года: 1 у Чырвонай Арміі, 1 у Польскім, 5 у царскім войску.

Які ж атрымліваецца ўмоўны партрэт сярэдняга жаўнера БВК апошняга перыяду яе дзейнасці? На падставе вышэйправедзенага аналізу атрымаем наступнае; малады, каля 26 гадоў, з Цэнтральнай або Заходняй Беларусі, праваслаўны, вясковец, кавалер, скончыў 2-гадовую вясковую школу, размаўляе альбо разумее беларускую, польскую і расійскую мовы, не мае баявога досведу.

Вось гэтыя хлопцы, хто воляю лёсу, а хто і па загаду сэрца, уступалі ў шэрагі батальёнаў Беларускай вайсковай камісіі, і кожны з іх даваў невялічкую, але ёмістую падпіску-прысягу, гэткую, як даў вясковец Хведар Сідарэвіч:

"Я, ніжэй падпісаны, грамадзянін Беларускае Народнае Рэспублікі Хведар Сідарэвіч ураджэнец Гарадзенскай губ. Сакольскага пав. Грабенеўскай вол. даю гэтую расьпіску ў тым, што абязуюся служыць у Беларускім войску (нацыянальным) на карысць Бацькаўшчыны — Беларусі шэсць месяцаў.

Сьнежня 7 дня 1920
Сідарэвіч".

Такім чынам, нягледзячы на тое, што эвідэнцыйныя лісты з'яўляюцца толькі прыватным адлюстраваннем асобнага вайсковага аддзела БВК, іх аналіз можа выразна характарызаваць і агульную сітуацыю ў беларускім вайсковым руху 1919—1921 гадоў.

**Віктар АСТРОГА,**
**навуковы супрацоўнік**
**Аддзела вайсковай гісторыі Беларусі**
**XX стагоддзя Інстытута гісторыі НАН.**

**ПЕРСПЕКТЫВА**

# ТЭЛЕВЕЖА ЛЯ КАМСАМОЛЬСКАГА ВОЗЕРА

У Беларусі праходзіць тэндэр на будаўніцтва новай тэлевізійнай вежы. Неабходнасць яе пабудовы выклікана тым, што тэлевізійны перадаючы цэнтр, размешчаны ў Калодзішчах пад Мінскам, ужо не адпавядае сучасным тэлекамунікацыйным патрабаванням, там поўнасцю вычарпаны магчымасці мадэрнізацыі. Між тым, зусім відавочная неабходнасць далейшага павелічэння колькасці прымаемых тэле- і радыёпраграм. Нягледзячы на тое, што ў горадзе развіваецца кабельнае тэлебачанне, яно не ў стане вырашыць праблемы забеспячэння дадатковымі каналамі жыхароў сельскіх раёнаў.

Такім чынам, у канцы мінулага года было прынята рашэнне пабудаваць у Мінску тэлевежу, якая возьме на сябе функцыі распаўсюджвання праграм тэлебачання і радыё, акрамя таго, там будуць устаноўлены перадатчыкі сухапутнай рухомай сувязі розных стандартаў і сістэм. Будаўніцтва новай тэлевежы дазволіць павялічыць колькасць прымаемых праграм, палепшыць іх якасць, дасць магчымасць расшырыць зону прыёму тэлевізійнай шматпраграмнай эфірнай кабельнай сеткі тыпу KOSMOS TV. Зона прыёму павялічыцца настолькі, што прыёмнікі шматпраграмнага тэлебачання можна будзе ўстанаўліваць нават у сельскай мясцовасці.

Улічваючы унікальнасць будучага збудавання, было вырашана аб'явіць міжнародны тэндэр. Удзельнічаць у ім пажадалі ўжо 14 прэтэндэнтаў, у прыватнасці, дзве буйныя праектна-будаўнічыя фірмы з Кітая, якія спецыялізуюцца на будаўніцтве унікальных тэлевежаў ва ўсім свеце і сёння ўзводзяць такія збудаванні ў Джакарце і Шанхаі, фінская фірма, турэцка-нямецкае СП, а таксама будаўнічыя фірмы з Германіі, Чэхіі, Польшчы, Італіі. Ёсць удзельнікі з Расіі і Беларусі, апошняя прадстаўлена прадпрыемствам "Белпрампраект". Прыняцце тэндэрных заявак канчаецца 30 красавіка ў 12 гадзін.

Ёсць усе падставы лічыць, што пададзеныя заяўкі будуць разгледжаны ў самыя кароткія тэрміны. Гэта абумоўлена тым, што будаўніцтва намечана пачаць ужо ў канцы гэтага года. Вызначана і месца, дзе размесціцца будучая вежа, — гэта праспект Машэрава, раён паміж гандлёва-выставачным комплексам і Камсамольскім возерам. Мяркуецца, што акрамя тэхналагічных нагрузак новая тэлевежа будзе выконваць і эстэтычную функцыю. Такія вежы маюцца практычна ва ўсіх буйных сталіцах свету, гэта, як правіла, унікальныя збудаванні, якія іншы раз становяцца сімвалам горада. У сакавіку была праведзена перадтэндэрная канферэнцыя, на якой прысутнічалі прадстаўнікі васьмі краін-удзельніц. Былі разгледжаны пастаўленыя імі пытанні, і на сённяшні дзень Міністэрства сувязі заканчвае работу па прадастаўленню ім патрэбнай інфармацыі.

Ёсць усе падставы лічыць, што пры разглядзе тэндэрных заявак прыярытэт будзе аддадзены найбольш эканамічным праектам. Адно з патрабаванняў да пераможцы, незалежна ад таго, якую краіну ён будзе прадстаўляць, — максімальны ўдзел у рэалізацыі праекта беларускіх будаўнічых арганізацый. Таксама пры вызначэнні пераможцы будзе ўлічана, наколькі прадстаўлены праект адпавядае патрабаванням тэхналогіі пры далейшай эксплуатацыі, а таксама эстэтычны бок — наколькі арганічна яна будзе ўпісвацца ў гарадскі пейзаж. Мяркуемая вышыня будучай тэлевежы — 410 метраў (для параўнання — вышыня Астанкінскай тэлевежы 533 метры), аднак канчатковае рашэнне будзе залежаць ад канкрэтных разлікаў і таго, наколькі канкрэтная вежа зможа забяспечыць неабходныя тэхналагічныя параметры. Згодна з патрабаваннямі, якія прад'яўлены да праекта, мяркуецца, што беларуская тэлевежа ўвойдзе ў першую дзесятку збудаванняў падобнага роду, вядомых сёння ў свеце. Лічыцца, што ў вежы будзе прадугледжана турыстычнае абслугоўванне, рэстаран, пляцоўкі агляду.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ПЕРАМОЖЦЫ МУЗЫЧНАГА ФЕСТЫВАЛЮ





**У Санкт-Пецярбургу прайшоў IX Міжнародны дзіцячы музычны фестываль "Ода да радасці". У ім прынялі ўдзел юныя музыканты з Амерыкі, Японіі, Ізраіля і краін СНД. У рамках гэтага вялікага свята былі праведзены два Міжнародныя дзіцячыя конкурсы: IV Міжнародны дзіцячы конкурс фартэпіянных дуэтаў імя Л. Брук "Брат і сястра" і Міжнародны конкурс "Я — кампазітар". У іх удзельнічалі 98 фартэпіянных дуэтаў і 144 кампазітары з розных краін.**

**У абодвух конкурсных жанрах выдатна выступілі навучэнцы гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У малодшай групе выканаўцаў лаўрэатамі II прэміі (І-я прэмія не прысуджалася) сталі вучні 3-га класа Наташа Вітчанка і Аляксей Собаль (выкладчыкі Л. Васільева і Э. Ахрэмчык). Мінскія школьнікі Міхаіл Оргін і Аркадзь Чубрык сталі лаўрэатамі Міжнароднага дзіцячага музычнага фестывалю ў конкурсе "Я — кампазітар".**

**Трэцяй узнагародай, дастаўленай у Мінск з таго ж фестывалю, стала спецыяльная грамата Саюза кампазітараў Санкт-Пецярбурга "За высокае педагагічнае майстэрства", якая прысуджана В. Карэтнікаву — выкладчыку мастацтва кампазіцыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: конкурснае праслухоўванне; лаўрэаты конкурсу Наташа ВІТЧАНКА і Алёша СОБАЛЬ з выкладчыкамі Л. ВАСІЛЬЕВАЙ, Э. АХРЭМЧЫК і членам журы В. БІБЕРГАНАМ.**

---

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ПРУСКАЎСКІ УЛІС

Цяпер пра нашы навіны. У царкве была служба ў гонар юбілею трохсотгоддзя Дома Раманавых. Усё было вельмі ўрачыста. Айцец Глеб справіў новую рызу. Кузёмка гэту зіму некалькі тыдняў пражыў у нас. Плёў пасталы. Сам, праўда, у ботах. Расказваў, што шмат народу з нашага краю едзе ў Сібір, на перасяленне. Мы іх шкадуем. Надта ж цяжка назаўсёды пакідаць бацькаўшчыну, але што зробіш — трэба. Доля такая. У школе на Ражаство была ёлка. Пан Падгурскі даў тры рублі, на якія купілі цукеркаў і пернікаў. Дзеці расказвалі вершы, спявалі, весяліліся, а потым асталі гасцінцаў.

Ганну Васілішыну наша Фядорка бачыла з Трахімам. Ён ёй і раней праходу не даваў, усё заігрываў, але Ганна малайчына, трымаецца, цябе чакае. У Хомчыхі нарадзіўся сын. Назвалі Арывонам.

Ажаніўся нарэшце Аляксей Галёнка. Не адну дзяўчыну скрыўдзіў, пакуль ажаніўся. Паўла Гальяша забралі ў салдаты. Скончыць вучылішча яму, беднаму, не ўдалося: не хапіла грошай. Апошні час жыў пры бацьках, дапамагаў у полі і ў клуні.

У нас не перастаюць ліць дажджы. Разлілася Лосьна, і добрую палавіну сена знесла вадою. Падгурскі купіў ровэра на гумовых колах, пафарбаваных у чырвоны колер. Спрабаваў ездзіць, але па снезе колы коўзаюцца, і ровэр упаў, прываліўшы самога Падгурскага.

Дзядулю нашага раматус даймае, ногі ломіць. Збольшага дапамагае дзядзька Хведар. Усяго табе самага найлепшага. Калі б ты ведаў, як мы чакаем ліста ад цябе, то пісаў бы, напэўна, часцей.

Усе табе перадаюць паклоны, і дзядзька Хведар.

Пісала Барбарка".

Ён напісаў у адказ, што ўлетку будзе дома і што чакае — не дачакаецца той хвіліны, калі яны нарэшце ўбачацца. І сапраўды, нейкая сіла цягнула яго туды, адкуль прыехаў, прымушала думаць пра тых, каго пакінуў у родных мясцінах:

"Дома цяпер, вызваліўшыся з даўгоў, я буду вольны, ні ад кога не залежны, а тут усё не сваё... І Ганна!.." Зноў успомніў яе захапляльную прыгажосць, якой убачыў яе тады, на світанні, у клуні...

А праз некалькі дзён паштальён прынёс новы ліст з Прускі. Напісалі, відаць, не дачакаўшыся яго адказу на папярэдні. Ён разгортваў яго з трывогай. Спачатку ішлі, як звычайна, паведамленні пра здароўе, стан гаспадаркі, надвор'е, а потым ён прачытаў:

"...Лявонка, мы табе раней не пісалі, а цяпер вось вырашылі напісаць. Дарагі сыночак, Ганна Васілішына не дачакалася цябе, выйшла замуж за Трахіма. Адбылося гэта ўжо колькі часу назад. Было вяселле..."

"Не дачакалася! — мільганула думка. — Бацька не вярнуўся, дык, мусіць, думала, што і я не вярнуся... А можа яна мяне ніколі і не кахала? Гэта быў звычайны падман, а я верыў. А Трахім... Трахімка... Нягоднік... І Ганна, Ганна... Што ж, няма, відаць, на свеце такога кахання, якое б устаяла перад разлукай. Дык можа і Цімоша тады з гэтай прычыны так загадкава ўсміхаўся?.. Па шчаках пакаціліся слёзы, ён зноў паднёс ліст да вачэй: "...Тоня, Фядора і Барбарка, усе мы абураны гэтым яе ўчынкам. Ох, Ганна, Ганна... Прускаўскія жанкі таксама былі супраць, бо ўсе ведалі, што ў яе ёсць ты, хай сабе і ў Амерыцы... Трахім хадзіў на попрадкі, каб пераканаць іх. Не змогшы іх у спрэчцы, ён ушчэнт пашчапаў ім калаўроты..."

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 11—15.**

Тут Лявонка не вытрымаў і зарыдаў уголас, як бы адчуўшы ў тых калаўротах адлюстраванне свайго лёсу.

"...Трахім быў апрануты ў белую палатняную вышытую сарочку і падпяразаны поясам з кутасамі. І Ганна ўбралася па-святочнаму. Сарочка вышытая, спаднічка, фартушок, на галоўцы вяночак з рознакаляровымі стужкамі, але сама маладая надта смутнай выглядала. Але што дзеецца? Не паспелі справіць вяселле, як Трахім зноў стаў хадзіць на музыкі. Ты ж яго ведаеш. А неўзабаве ў Ганны нарадзілася дзіця. Сынок. Неяк гэта было для ўсіх нечакана, бо пра Ганніну цяжарнасць ніхто не чуў — не падобна яна была на цяжарную. Бацюшка малога Косцем назваў. Відаць, у гонар Кастантага, які быў за кума.

Вось такія справы. У нас ужо восень. Ты надта там не ўбівайся. Трымайся. Дзяўчына знойдзецца заўсёды.

Пісала Тоня".

Пасля гэтага ён доўга не мог супакоіцца. "Жыццё дае нечаканасці, — раз-пораз уздыхаў ён, адклаўшы ліст убок. — Спадзяваўся на адно, а выйшла другое. Што ж, такі, мусіць, лёс..." Успомніўся чамусьці радок з даўняга Ганнінага ліста: "Хлопцы за адзін вечар станцоўваюць па пары пасталоў".

"Датанцавалася!.."

Гаспадар заўважыў яго разгубленасць:

— Што здарылася?

Работнік пачуваў сябе ніякавата, толькі і здолеў сказаць:

— Мне спешна дадому трэба.

— What did you say?[1]

— Ліст прыйшоў з дому. Яна замуж выйшла, — растлумачыў прускавец.

— Хто?

— Дзяўчына мая...

— Ол райт! — пацiснуў плячыма фермер. — Тым больш няма падстаў для хвалявання. Нашто ехаць, калі яна ўжо замужам? І потым — у гэтай сітуацыі яшчэ невядома, каму больш пашанцавала,.. — Іван глядзеў на яго са шкадаваннем, як на дзівака.

Развагаю Лявонка пагаджаўся, што фермер гаворыць праўду, а сэрца не сунімалася: "Едзь!" Іван, а потым і Мелані спрабавалі давесці сваё:

— Сюды ж едуць людзі, каб заставацца тут! — казаў Іван.

— Завядзеш свой бізнес,.. — угаворвала Мелані.

Гаспадар спрабаваў суцешыць:

— Хутка на зайцоў будзем паляваць, вунь іх колькі развялося!

Але Лявонку было не да зайцоў, "Не, Амерыку ён пакідае — раз і назаўсёды. Вярнуцца ў Амерыку? Ніколі. Гэта ж праз яе я страціў Ганну..." Вядома, Бузукам гэтак рэзка сказаць не пасмеў. Крыху супакоіўшыся, нават палагоднеў:

— Папраўлю справы і вярнуся. Я ж маю на гэта права на працягу двух год...

[1] Што ты сказаў? (англ.)

Забягаючы наперад, аднак, нельга не казаць, што і праз дзесяць, і праз дваццаць, і праз больш гадоў ён не раз будзе шкадаваць, што пакінуў гэтую такую багатую на розныя дзівосы краіну, шырокую і па-сапраўднаму свабодную.

Не адкладваючы, з'ездзіў у Маршалтаўн, зняў у банку невялікія грошы, што ляжалі на яго рахунку, хуценька купіў білет на параход, астатнія, за выключэннем тых, што патрэбны былі на дарогу, выслаў дадому. Параход — "California". Ён быў намаляваны на білеце — дыміў усімі чатырма высокімі чорнымі трубамі. Тут жа, у Маршалтаўне, набыў жоўты скураны чамадан (як-ніяк — амерыканец), новы капялюш, куртку і іншыя неабходныя рэчы і падарункі. Касцюм у яго быў яшчэ той — цёмны ў шэрую палоску, які яны некалі куплялі разам з Цімошам і Піліпком. Купіў яшчэ пару белых кашуль і маціовыя запінкі да іх.

— Ты сёння выглядаеш, як новенькі даляр! — пажартаваў гаспадар, калі Лявонка вярнуўся з Маршалтаўна.

Мелані глядзела на яго з сумам.

— Білет купіў! "California"! — абвясціў Лявонка і паказаў чамадан.

— У Каліфорнію? — не зразумела Мелані.

— Дадому. Гэта параход "California".

— Вось яно як! — фермер пачасаў патыліцу і паправіў капялюш.

Прускавец таксама развёў рукамі. "California" адплывала праз некалькі дзён. А там, праз пару тыдняў, Лібава. Трэба было развітацца з гасціннымі гаспадарамі. Іван зрабіў канчатковы разлік.

Вяртаўся ён з Амерыкі на зыходзе 1913-га. На дварэ ўжо стаяла няўтульная нью-йоркская зіма. Над горадам плылі, чапляючыся за дахі шматпавярховых хмарачосаў, густыя звільгатнелыя аблокі. Пранізлівы вецер даставаў да самага споду, але прускавец не адчуваў холаду. Стоячы на палубе магутнай чатырохтрубнай "California", ён думаў пра той дзіўны збег абставін, які закінуў яго ажно на другі бок зямлі, за акіян, пра наканаванасць жыцця, у якім прычыннасць і лёс дзейнічалі як бы заадно.

"Чаму гэта я раптам так хутка падхапіўся і кінуўся дадому? Як і тады, калі сюды ехаў... Ганна, Ганна, Ганна... Гэта ты мяцеліш маім жыццём. Дзівак! Лічыў сябе незалежным. Незалежным — ад каго? Хіба можна быць незалежным ад сваіх пачуццяў, ад самога сябе? Ад той сілы, што падхапіла і панесла ў гэтыя невядомыя прасторы, у Амерыку? (Цяпер яна несла яго, як птушку, назад — у Еўропу, дадому, у Пруску). Гэта ўсё адно як нейкі інстынкт. Інстынкт вяртання. Пруска, Пруска, як ты там?"

Побач узвышаўся Нью-Ёрк. Прускавец пазіраў на гэты велічны горад — галоўны горад краіны, якую яму даводзілася пакідаць. Нью-Ёрк імкнуў у вышыню. Уперагонкі з хмарачосамі ўзнімаліся ў неба дзве высокія ажурныя дугі жалезных мастоў, перакінутых над Гудзонам. Удалечыні, у бок поўначы, угадваліся грузныя абрысы маўзалея Гранта, з левага боку ўзвышаўся нядаўна пабудаваны агромністы каталіцкі сабор, назвы якога Лявонка не ведаў. У тым баку, дзе знаходзіўся порт, тоўпіліся, як жалезныя жоравы, магутныя краны, павольна рухаючы сваімі цыбатымі шыямі. Назіраючы за іх працай, ён і не заўважыў, як "California" ціха кранулася з месца.

— Леан! Леан!

Нехта крычаў, стоячы на пірсе. Яму нават пачулася: "Ляво-он!" Ён выразна чуў.

"А можа гэта яна — Аннет? Не, такога не можа быць! Гэта хтосьці чужы..."

— Я і там цябе знайду-у-у!

Не, гэта яму здалося, не іначай. А можа гэта крычалі каму-небудзь іншаму, не яму, але чамусьці шкада стала амерыканку. Потым свядомасць запоўнілі думкі пра другую Ганну — прускаўскую. Зноў заныла душа. Ён падумаў, што ў свеце, на жаль, няма згоды ў падзеях і ў чалавечых учынках. "А можа гэта і добра, што яна выйшла замуж — я, як-ніяк, свабодны. Можа якраз у гэтым шчасце?.."

"California" параўнялася са статуяй Свабоды, потым мінула яе. Ён сачыў, як яна аддалялася, і непрыкметна для сябе перайшоў на карму. Глядзеў назад, на зямлю, з якою даводзілася развітвацца і на якой прыйшла да яго сталасць. Тут ён вытрымаў праверку на трываласць, на права нешта значыць у гэтым свеце. Пакідаць Амерыку з яе багаццем і незвычайнымі магчымасцямі, дэмакратычнымі правамі і свабодамі — гэта і сапраўды варта было жалю. Гэтая краіна і яму магла даць разгарненне для жыцця. Ён успомніў не раз чутыя ад амерыканцаў словы: "Бог любіць Амерыку". Праўда, нялёгка выкарыстаць гэтыя магчымасці. Часцей за ўсё даводзілася спадзявацца толькі на сябе самога. З нейкім шкадаваннем падумаў, што, колькі ён ні знаходзіўся ў Амерыцы, а так і не зразумеў, што такое бізнес.

Выблытаўшыся з Гудзонавага заліва, "California" ўзяла курс на Еўропу. Абрысы амерыканскага берага аддаляліся і раставалі ў блакітнай імгле. Нарэшце знікла і статуя Свабоды, а за ёю і чайкі. Вакол, як і тады, сем гадоў назад, ізноў закалыхалася акіянская далячынь.

Публіка, што вярталася назад, у Еўропу, выглядала куды больш чыстай і дагледжанай, чым тая, што некалі плыла сюды, у Новы Свет. Прускавец часта паднімаўся на палубу, азіраўся на людзей, углядаўся ў шэрую бясконцасць акіяна. Крыху прытупіліся думкі пра Ганну, пра апошнія падзеі свайго жыцця. Як такое ўжо адбылося, то ўжо, відаць, нічым не паправіш. Калі яна замужам, дык ужо позна. Яе не вернеш. Нічога не зробіш. Чаго ж я так раптоўна кінуўся? Трэба было раней. Яна ж чакала!.. Але дакуль можна чакаць?.. Сем гадоў прабыў тут, сем гадоў...

Вяртаўся іншым чалавекам. Калі падумаць, то вяртаўся з багаццем — вёз энергію новага вопыту, мыслення. Цімоша ўжо вярнуўся. А цяпер і ён вось едзе. А Піліпко, напэўна, застаўся. Жаніўся, мусіць, прыжыўся... Цікава, дзе зараз Андрэй Кляновік. У Амерыцы ці, можа, ужо ў Расіі?

Новы год сустракаў на караблі. 1914-ты. Восьмы з сустрэтых у Амерыцы. Сусед па каюце — мужчына з рудымі абвіслымі вусамі прапанаваў выпіць віскі.

— Адкуль вы?

— Russian.

— О-о!

Каюту асвятляла слабенькая электрычная лямпачка — начнічок. Сусед аказаўся гандлёвым агентам — вёз у Лібаву ўзоры прадукцыі сваёй фірмы: пальчаткі, дамскія сумачкі і парасоны. Пілі віскі, гутарылі.

Пад раніцу выйшлі на палубу. Дзьмуў вецер. Хвалі нагадвалі вадзяныя горы, паміж якімі карабель мог, калі б раптам не пашанцавала, перавярнуцца і пайсці на дно. Вецер злымі похапкамі зрываў з гэтых вадзяных гор пену і тут жа, расціскаючы яе на пыл, кідаў на палубу. Але "California", здавалася, плыла марудна, і Лявонка губляў цярпенне. Ахмялелы ад віскі і свежага ветру, рвануў гузікі і зняў з сябе кашулю, добра-такі паношаную, размахнуўся і кінуў яе ў акіян.

Новы знаёмы засмяяўся: "Новы год! Старыя рэчы далоў!"

Кінуўшы, аднак, Лявонка ўспомніў, што ў кішэні яшчэ знаходзілася колькі даляраў. Стала шкада, але махнуў рукой — не кідацца ж за імі ў акіян. А хвалі, як ашалелыя, усё біліся аб борт, абдаючы зявак пырскамі пены.

Новы знаёмы, які стаяў побач і, абапёршыся на жалезную загародку, глядзеў у мора, сказаў:

— Недзе пад намі ляжыць "Цітанік". Аграмадны карабель! Колькі тысяч людзей на ім плыло...

Лявонка ўспомніў, што ён чытаў пра гэтае трагічнае здарэнне ў газетах.

— Гэта ж было ў мінулым годзе?

— У мінулым.

Яны надоўга замаўчалі — кожны, мусіць, думаў пра сваё.

Падарожнік з Прускі зноў пачаў перабіраць у памяці ўбачанае і напатканае ў чужым краі. Розныя моманты давялося перажыць, нават і вельмі цяжкія, усяго паспытаць, але, можа, самае галоўнае: яму ўдалося глытнуць і адчуць смак свабоды. Моцны напітак! Можна сказаць, лекавы, здольны абудзіць у чалавеку веру ва ўласныя сілы, годнасць і незалежнасць. Галоўнае — незалежнасць. Каб ні ад кога не залежаць, кіравацца сваім розумам! Цяпер ён быў упэўнены, што чалавек павінен жыць так, як ён хоча, як лічыць патрэбным. Ён нават пасміхнуўся. Лічыш сябе прускаўцам, а ў табе ўжо жыве амерыканец. Ад гэтых думак станавілася нават весела. Аднак разам з тым прабівалася і іншае адчуванне: "Адзін, без людзей, ты таксама слабак. Калі б не паверылі, не пазычылі грошы на дарогу, не дапамаглі, нічога б не было. І Амерыкі б не ўбачыў..."

...Праз тыдзень які ці крыху больш падплывалі да Еўропы. Вецер даносіў пах зямлі. А можа яму так здавалася?

У марской прасторы пачалі з'яўляцца чайкі. Яшчэ праз колькі дзён — Лібава. Усё больш узрастала трывога...

АДНАЎЛЯЮЦЦА АРХІЎНЫЯ ДАКУМЕНТЫ

# БРАМА Ў НЕБА

Самы старажытны могільнік у Віцебску з'явіўся на пачатку XVII стагоддзя. Праіснаваў ён у горадзе аж да пачатку стагоддзя бягучага, што для Беларусі з'ява рэдкая, каб не сказаць унікальная. Аднак цалкам знішчаны ў савецкі час, ён толькі папоўніў сабой мартыралог культурных і духоўных страт ашкеназаў Беларусі. Сёння высокі бераг Дзвіны, на якім некалі размяшчаліся старажытныя магілкі, падмыты штогадовымі паводкамі, часткова сспоўз у ваду. А на пляцы, густа парослым дрэвамі, не захавалася ніводнага надмагілля.

"Ойча наш, Гаспадар наш, адчыні брамы нябёсаў для нашай малітвы" — гэтыя малітоўныя словы на працягу стагоддзяў прамаўляліся яўрэямі на свята Йом Кіпур. І кожны год праз могілкавую браму — "браму ў неба" — пранасілі новых нябожчыкаў, якія знаходзілі тут вечны спачын. Сёння ж пра тое, што на набярэжнай Дзвіны па вуліцы Путна недалёка ад сучаснага Артцэнтра Марка Шагала знаходзіліся сталіца мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскага зноў захапілі частку зямлі, адведзенай пад яўрэйскія могілкі. Вынік разбору справы быў зноў-такі на карысць яўрэяў, якім вярталася частка "старадаўняга грунту, дзе яны памерлых сваіх хаваюць". Апроч таго, на адвароце ліста Язафат Бражыц, надзелены мітрапалітам паўнамоцтвамі ў вырашэнні гэтай справы, рукою ўласнаю напісаў: "Гарантуем таксама (...), што калі б які-небудзь мешчанін з юрыдыкі яснавяльможнага ягамосці ксяндза мітрапаліта наважыўся (...) ламаць паркан, разгароджваць або якія іншыя крыўды чыніць таму месцу, што агароджана і панам яўрэям належыць, або крычаць, лаяцца, несправядлівыя абражаць і бунтаваць супраць іх, тады ён вінен заплаціць ягамосці пану і пастыру нашаму сто коп і трыцаць". Варта адзначыць, што за 130 коп грошай у той час можна было набыць чатырох коней, таму, думаецца, наўрад ці каму з віцблян прыходзіла асаблівая ахвота канфліктаваць з яўрэямі.

радаўнія яўрэйскія могілкі, ведаюць у Віцебску адзінкі. А гісторыю самога некропаля можна аднавіць адно толькі па архіўных дакументах.

Прывілей на "права гандлю ўсялякімі таварамі ў адчыненых лаўках, што значыць локцем мерыць і фунтам важыць", а таксама на свае малельні і пляцы для ўладкавання могілак віцебскія яўрэі атрымалі ад караля і вялікага князя Жыгімонта III Вазы. У 1632 годзе гаспадар краіны памёр, і праз пасрэдніцтва сваіх памагатых віленскіх яўрэяў Самуіла і Лазара Маісеевічаў віцебская абшчына стала хадайнічаць перад спадчыннікам трону Уладзіславам IV аб наданні пацвярджэння (канфірмацыі) яе даўняму прывілею. Дакумент быў падпісаны манархам у Кракаве 9 сакавіка 1633 года.

Адведзены пад могільнік зямельны пляц на Пёсяй Паляных па Узгорскім пасадзе блізу Слізкага ручая межаваў з зямлёй, што належала ў той час архіепіскапії полацкай, віцебскай і мсціслаўскай. Непасрэдным суседам яўрэйскай абшчыны быў архіепіскапскі мешчанін Грышка Гогаль, які, пакваліўшыся на чужую маёмасць, прыхапіў кавалак зямлі ад могілак. У жніўні 1639 года ад імя абшчыны "старшы віцебскі яўрэй" Юда Якубовіч падаў скаргу архіепіскапу Антонію Сяляве і прадставіў яму дакументы, у якіх было засведчана, што пляцам пад "копішчам" абшчына валодала ўжо больш за трыццаць гадоў. У выніку разгляду справы, "схіліўшыся да справядлівасці", уніяцкі архіепіскап загадаў вярнуць яўрэям у "спакойнае валоданне на патомныя часы" кавалак зямлі, які далучыўся да іх пляца, што "пачынаецца ад ракі Дзвіны і знаходзіцца паміж дамамі віцебскай ратушы і дамамі архіепіскапскіх мяшчан".

Амаль праз паўстагоддзя, у 1686 годзе, памянёны ліст Антонія Сялявы ад імя "ўсяго віцебскага кагалу" быў прадстаўлены Берам Гіршовічам для ўпісання ў гродскія сурагатарскія кнігі. Аднак гэтыя кнігі напаткаў нешчаслівы лёс: на пачатку XVIII стагоддзя яны згарэлі (хутчэй за ўсё, падчас спалення горада воямі Пятра I). Таму ў 1710 годзе "старшы віцебскі яўрэй" Янкель Абрамовіч зноў прадставіў для ўнясення ў віцебскія актавыя кнігі руліва перахаваны ад агню арыгінал ліста полацкага архіепіскапа. Разам з тым ён прадставіў і яшчэ адзін дакумент, аналагічны папярэдняму, які таксама быў упісаны раней да сурагатарскіх кніг — ліст афіцыяла полацкай і віцебскай архіепіскапіі Язафата Бражыца ад 8 траўня 1677 года. Праз тры дзесяткі гадоў пасля выраку Сялявы гісторыя паўтарылася: мяшчане юрыдыкі архіепіскапа і

Наступны дакумент пераносіць нас у XVIII стагоддзе. За гэты час яўрэйская абшчына горада павялічылася, і, натуральна, з'явілася патрэба пашырыць зямельны пляц, адведзены пад могілкі. Было вырашана набыць зямлю ў сябра віцебскага магістрата радцы Тамаша Лорэнса. У сярэдзіне XVIII стагоддзя пры віцебскім кагале ўжо існавала пахавальнае брацтва. Таму менавіта яго прадстаўнікі разам з Тамашом Лорэнсам у сакавіку 1750 года прыйшлі ў ратушу, каб у прысутнасці "віцэ-ландвойта", бурмістраў, радцаў, лаўнікаў і ўсёй рады магістрата яго каралеўскай міласці места Віцебска" заключыць гандлёвую дамову. За 25 талераў бітых, "лічачы ў талеры 6 тынфаў і шостак", Лорэнс прадаў віцебскаму кагалу пляц зямлі, што належаў яму "на Узгор'і, пры вуліцы Падтычынскай, за Спаскай царквой, які прылягае да вулачкі, што вядзе да Дзвіны". Дамова гэтая была ўпісана ў актавыя ратушныя кнігі і набыла юрыдычную моц з 24 сакавіка 1750 года.

Пасля вайны 1812 года побач са старадаўнімі яўрэйскімі могілкамі ўзвялі мураваную Спаскую царкву, што стаяла раней недалёка ад палаца губернатара і была разбурана французамі па загаду Напалеона падчас акупацыі горада. Новы праваслаўны храм і яўрэйскае "копішча" былі раздзелены ўсяго толькі вуліцай, якая цяпер замест Падтычынскай стала называцца Спаская.

Пра дзейнасць віцебскага пахавальнага брацтва ў сярэдзіне XIX стагоддзя, якое мела назву хеўра-кадзіш, знаходзім звесткі ў мясцовага краязнаўца Аляксандра Семянтоўскага: "Хеўра-кадзіш загадваюць могілкамі, клапоціцца аб падрыхтоўцы ям для памерлых, аб уладкаванні дашчаных скрыні, кшталту труны, куды кладуць цела, мыцці і апрананні памерлага і, у выпадку крайняй беднасці нябожчыка, шыцці для яго пахавальнага савана. Даход гэтага брацтва складаецца з добраахвотных ахвяраванняў заможных гаспадароў з яўрэяў за прадастаўленне памерлым членам іх сем'яў лепшых месцаў на могілках і за аргатызацыю больш урачыстага пахавання. Справамі хеўра-кадзіш кіруюць спецыяльна абраныя для гэтага шляхам балаціроўкі старшыні — габаім (...). Збор ахвяраванняў для пахавання бедных яўрэяў робіцца адкрыта, падчас ходу пахавальнай працэсіі. Багатыя і бедныя ўнёскі гэтых ахвяраванняў прымаюцца сябрамі брацтва, якія ідуць па баках кабе, на якіх вязуць у чорным куфры цела нябожчыка, у спецыяльна зробленыя дзеля гэтага

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# «ПРЫМІЦЕ, СЫНКУ, У РОДНАЙ МОВЕ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

мі, роздумам аб лёсе свайго народа. Малодшая дачка Гелена Сівіцкая па просьбе краязнаўцы Г. Каханоўскага пісала яму з Польшчы:

"Мой бацька ў маладосці перажыў многа гора і бяды, таму меў чулае сэрца да ўсіх бедных сялян, якім у тую пару вельмі цяжка жылося. Сваю жыццёвую пазіцыю здабыў толькі сваімі здольнасцямі.

...Ён глыбока ўрос у беларускі народ, паходзіў з яго, разумеў яго і любіў. Размаўляў з людзьмі па-беларуску. Народныя звычкі, легенды, паданні найчасцей былі любімай тэмай размоў. Бацьку любілі, шанавалі каючныя сяляне, ганарыліся ім. Ён меў сувязь з усімі прылеснымі вёскамі.

...Натхняўся светам прыроды, розныімі здарэннямі, працоўнымі перажываннямі, успамінамі, вопытам знаёмых і менш знаёмых людзей".

У пісьмах дачкі не выпадкова некалькі разоў гаворыцца пра прыхільнасць бацькі да ўсяго беларускага, да роднай мовы. Паэт і сам неаднойчы казаў пра гэта. У вершы "На вяселле сваяку":

**Прыміце, сынку, у роднай**
**мове**
**Шчыра жаданне, шчыры**
**прывет.**

У вершы "Пра паноў":

**Няхай жа нашаму мужчыне**
**Быць трапіцца ў паноў**
**ў гасціне,**
**Ну, дык магу смела сказаць,**
**Што будзе после праклінаць.**
**Бо там смяюцца з нашай**
**мовы**
**Пустыя гэтыя галовы.**

Сумна-радасна чытаць верш "Апошняе жаданне".

**Адно, прызнацца, хацеў бы**
**штосьці**
**(Такія думкі ў мяне былі),**
**Каб после смерці да сваё**
**косці**
**У беларускай злажыць зямлі.**

**Дык пахавайце гдзе на**
**кургане**
**Паміж зялёнай кучкі дзэраў,**
**Гдзе разлягацца будзе**
**ў тумане**
**Наш беларускі тужлівы спеў.**

Я спецыяльна сканцэнтраваў увагу на гэтых выказваннях пра паэта і на яго асабістых



думках пра беларушчыну. Менавіта ў ёй мне бачацца вытокі яго патрыятызму, а адсюль — і вытокі творчасці, яе характар, тэматыка. І яго мова — надзвычай народная, насычаная характэрнымі толькі для беларуса выразамі, прымаўкамі, прыказкамі, спроўцамі, афарызмамі.

Яркі ўзор гэтага — паэма "Год беларуса". Не буду стамляць чытача яе пераказам, цытаваннем. Скажу толькі, што ў ёй паказана, абагульнена жыццё селяніна на працягу чатырох пораў года. Здаецца, пасля "Новай зямлі" Я. Коласа няма больш дакладнага апісання жыцця дарэвалюцыйнай вёскі.

Высока ацаніў паэму В. Рагойша з іншага пункту гледжання: "Год беларуса" — узор жывой беларускай народнай мовы, яе цэнтральных і паўночна-заходніх гаворак, што склалі аснову літаратурнай нормы. Увогуле, мова Старога Уласа даволі багатая, па-народнаму сакавітая, у ёй увасобіліся народны тып мыслення, тыпова народная вобразнасць. У паэме дзесяткі назваў тыпова беларускіх з'яў прыроды, раслін, жывёл, уласных імён. Верш паэмы... надае твору гутарковасць, інтанацыю нязмушанай размовы — традыцыя, якая ідзе яшчэ ад ананімных беларускіх гутарак XIX стагоддзя. Усім гэтым паэма таксама прыцягвае нашу ўвагу. Яна застаецца не толькі помнікам пэўнага часу, але і творам, які можа (і павінен!) уключыцца ў жывую плынь сённяшняга літаратурнага працэсу, узбагаціць чытачоў духоўна і эстэтычна".

Такая ж і публіцыстыка Старога Уласа. Яго допісы, надрукаваныя ў "Нашай ніве" ў 1909—1913 гадах, даюць уражлівы малюнак жыцця сялян. У іх шмат краязнаўчага і этнаграфічнага матэрыялу — апісанні Вапожына, вёсак, падвор'яў, звычаяў, побыту, святаў, пагулянак, здарэнняў...

Шкада, што некаторыя з тых нядобрых завядзёнак захаваліся да сёння, магчыма, нават у большай меры. Таму і гучыць надзённа адзін з допісаў Старога Уласа:

"Чытаючы "Нашу ніву", часта трапляецца пачуць шмат наракання на гарэлку, але, разгледзеўшыся, дык і каля нас вельмі самавіта з гэтым. Дзе ты ні кінься, куды ні ступі, усюды наткнешся на гарэлку. Прадае часам кабеціна парася, другая купляе авечку або цяліцу — п'юць барыш. Наймаюць чапядніка ці чапядніцу, а хоць бы і пастуха — барыш. Здарыцца к табе які госць, сваяк, добры знаёмы, дык чым жа яго ўгасціць? Гарэлкай! Трэба каму вазіць сена ці бярвенне — прыходзіцца спрасіць суседзяў і даць гарэлкі. Дасць каму Бог дзіцятка, спраўляе радзіны — трэба гарэлкі, хрэсьбіны — трэба гарэлкі. А на вяселле дык часам і кароўкі не хваціць. Ну, яшчэ на гэтыя патрэбы дык, можа, другі і скажа, што гэта тут падыходзіць, але на пахаронах, калі здарыцца ў каго нябожчык — ці стары, ці хоць бы малое дзіцянё, дык і там не абыйдуцца без гарэлкі нядзі... "А што ж, — кажуць, — не дай гарэлкі, дык нікто і дзвярэй не адчыніць, а што ж адзін зробіш, і дамавіну зладзіць, і дол выкапаць, і на могілкі занесці, а без гарэлкі гэтага не зробіш, бо нікто не пойдзе." Як гэта нядобра, што ўсё за гарэлку".

Спадзяюся, што гэтая вытрымка дазволіла чытачам уявіць стыль, мову, ход думак Старога Уласа.

У заключэнне яшчэ пра адно. У верасні 1999 года — 60 год з дня смерці паэта. Ужо неаднойчы здаралася, што такія даты праходзілі не заўважаныя тымі, хто павінен заўважаць. Хочацца верыць, што пра Старога Уласа паявяцца публікацыі, перадачы па радыё. Добра было б ажыццявіць другое, дапоўненае выданне кнігі "Год беларуса".

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: СТАРЫ УЛАС; дом, дзе ён жыў.**






## У ІМЯ СЯБРОЎСТВА

Сербалужыцкі пісьменнік Кіт Лоранц у 1965 годзе наведаў нашу краіну і, безумоўна, атрымаў нямала прыемных уражанняў. Імі і падзяліўся ў вершах, што склалі цыкл "З падарожжа ў Беларусь". А знаёмства з "зямлёй пад белымі крыламі" падштурхнула К. Лоранца ўзяцца за пераклады твораў беларускай літаратуры. У выніку на верхнялужыцкай мове з'явілася "Паўлінка" Янкі Купалы (пераклаў разам з А. Наўкам), асобныя вершы таго ж Я. Купалы, Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Аляксея Зарыцкага... Загучала па-беларуску і паэзія К. Лоранца. Яго перакладалі Максім Танк, Аляксей Зарыцкі, Ніл Гілевіч, Алесь Траяноўскі.

У гэтыя дні наш сербалужыцкі сябра адзначыў сваё 60-годдзе. Застаецца толькі павіншаваць яго з юбілеем і пажадаць, каб і надалей пры К. Лоранц пра беларускую зямлю, дзе знайшоў сябрюў, і пра нашу літаратуру, якую палюбіў.

## САМЫ АДУКАВАНЫ БЕЛАРУСКІ ДЗІ-ДЖЭЙ

# ПАДАРУНАК – ДВА МЯХІ БУЛЬБЫ

Джым Нельсан — самы адукаваны беларускі дзі-джэй. Першую сваю вышэйшую адукацыю — хімічную — ён атрымаў яшчэ ў сябе на радзіме, у Ліберыі, адкуль, вытрымаўшы вялікі конкурс, прыехаў на вучобу ў Савецкі Саюз яшчэ ў 1989 годзе. З Масквы яго накіравалі ў Мінск, дзе пасля заканчэння падрыхтоўчага аддзялення ён паступіў на факультэт журналістыкі, які ў 1995 годзе скончыў з чырвоным дыпломам. Пакуль Джымі вучыўся, на радзіме у Ліберыі пачалася грамадзянская вайна, і вяртацца туды стала небяспечна. Каб не губляць дарэмна час, ён паступіў у інстытут замежных моў і вывучыў там французскую, атрымаўшы сваю трэцюю вышэйшую адукацыю. У канцы мінулага года вайна ў Ліберыі закончылася, і цяпер Джымі хацеў з'ездзіць на радзіму, але амерыканскае пасольства ў Беларусі не дае яму візу.

У час вучобы ў інстытуце на адной са студэнцкіх вечарынак Джымі паспрабаваў сябе ў ролі дзі-джэя. Спроба аказалася ўдалай, і ён прыняў прапанову ўвайсці ў групу з назвай "Інтэр". Групу заўважылі і запрасілі ў тэлеперадачу "Тэлебом", пасля гэтага з'явілася новая каманда пад назвай "Элегант-кампані", якая выпусціла два магнітныя альбомы і адправілася на гастролі па Беларусі і Расіі. Аднойчы ў Рэчыцы пасля канцэрта адбылася дыскатэка, у час якой Джымі ўпершыню выйшаў на сцэну ў якасці дзі-джэя. Праз месяц пасля гэтага ён з поспехам прайшоў конкурс дзі-джэяў у кінатэатры "Масква" і пачаў працаваць на дыскатэцы "Парадзіз-шоу". Публіцы новы незвычайны дзі-джэй спадабаўся, і сёння ён вядзе дзве дыскатэкі — для дарослых і для дзяцей.

Джымі лічыць сябе гопнікам — чалавекам, які любіць розную музыку. З дзецьмі Джымі вельмі лёгка знаходзіць агульную мову, самае папулярнае пытанне да яго: "Дзядзя, чаму ты чорны?" І кожны раз даводзіцца цярпліва тлумачыць, што мыць ён любіць не менш, а то і больш, чым самі дзеці. Яны прымаюць Джымі безагаворачна, гатовы танцаваць з ім бясконца і патрабуюць, каб ён прыйшоў да іх дамоў у госці. Дарослыя ж бываюць капрызнымі: адны патрабуюць песень на рускай мове, другім патрэбен хіп-хоп, трэція патрабуюць папсу, чацвёртыя — хэві. Уменне дагадзіць усім адразу можна аднесці да сферы мастацтва.

За апошнія гады да англійскай, французскай і рускай моў, якімі валодае Джымі Нельсан, дабавілася беларуская, на якой ён усё разумее, гаворыць і нават спявае ў ансамблі "Сябры". Калі Джымі з ансамблем прыязджае ў беларускія вёскі, то перад канцэртам мясцовыя бабкі ў вялікім здзіўленні. Пасля выступлення пра яго гавораць: "Гэта наш!" і называюць яго чорным беларусам.

Каб не забыць англійскую мову, Джымі бярэ ў бібліятэцы кнігі на гэтай мове і чытае іх сам сабе ўслых. Сярод любімых пісьменнікаў — Мікалай Гогаль. Цікава, што сказаў бы класік, калі б пачуў "Вія" на англійскай мове ў выкананні Джымі?!

Больш за ўсё ў Беларусі чарнаскураму дзіджэю падабаюцца людзі. Раней яму вельмі падабаліся амерыканцы, сярод якіх ён рос і вучыўся (бацька Джымі — амерыканец, які прыехаў у Ліберыю на працу і застаўся там). Але беларусы аказаліся лепшымі, у чым ён пераконваўся не раз за праведзеныя тут сем год. Па яго перакананні, расізм беларусы не прымаюць, ён сябруе з усімі, і, у горшым выпадку, людзі проста не хочуць з ім мець справу, што, зрэшты, яго не вельмі засмучае.

Знаёмых у Джымі мноства, сяброў — мала. Іншы раз ён адчувае сябе вельмі адзінокім. Тым не менш, ёсць два чалавекі, якіх Джымі, нягледзячы на розніцу ў колеры скуры, лічыць сваімі бацькамі. У ролі мясцовага бацькі выступае кіраўнік "Сяброў" Анатоль Ярмоленка, які дапамагае яму з работай, грашыма, песнямі і ўсім астатнім, а мама — Наталля Валодзіна, стваральніца дыскатэкі "Лімпапо". Яна, напрыклад, навучыла Джымі не траціць усю зарплату ў дзень палучкі, ды і ўвогуле дае яму простыя жыццёвыя парады, бо дзі-джэй вельмі падобны на тых самых дзяцей, з якімі ў яго да гэтага часу агульнага больш, чым з дарослымі.

Больш за ўсё Джымі ў Беларусі не падабаецца тое, як тут будуюць дамы. Калі ён прыехаў сюды, на Цэнтральнай плошчы стаяў недабудаваны Палац рэспублікі. З таго часу прайшло сем гадоў, за якія змяніўся толькі плот, якім гэты будынак абнесены. Гэтак жа марудна тут вырашаюцца і ўсе астатнія праблемы. Два гады назад Джымі напісаў заяву на атрыманне пасведчання на права жыхарства. Яго спасціг лёс Палаца рэспублікі... Застацца ў Беларусі назаўсёды Джымі не хацеў бы. Ён марыць вярнуцца ў Ліберыю і працаваць там журналістам на радыё ці тэлебачанні. Больш за ўсё яму хацелася б весці там музычныя перадачы, і першы крок у гэтым напрамку ім ужо зроблены: з нядаўняга часу Джымі вядзе на "Радыё-рокс" праграму "Юніполіс". За сем гадоў, праведзеных у Беларусі, Джымі так і не ажаніўся. Многіх гэта здзіўляе, паколькі чарнаскурыя іншаземцы мясцовымі жонкамі абзаводзяцца тут вельмі хутка. Сам Джымі лічыць, што перад тым, як ажаніцца, трэба паклапаціцца аб матэрыяльным дабрабыце будучай сям'і. Колер скуры будучай жонкі значэння не мае, па словах Джымі, яна можа быць хоць зялёнай, толькі б была добрым чалавекам. А ўвогуле, ён проста пакуль яшчэ не сустрэў дзяўчыны сваёй мары, якая згодна з патрабаваннямі Джымі павінна быць сціплай, не піць і не курыць. Так што ёсць усе падставы меркаваць, што калі Джымі застанецца ў Беларусі, яго чакае лёс старога халасцяка. Тым не менш, хаця пастаяннай дзяўчыны ў Джымі пакуль няма, ён прыняў цвёрдае рашэнне ў бягучым годзе гэтую праблему вырашыць.

Нядаўна Джымі запрасілі выступіць у дзіцячым доме ва Уздзе, дзе ўсе вельмі любяць аўдыёкасеты з запісамі яго дыскатэк, і больш за ўсё на свеце дзеці марылі ўбачыць жывога чарнаскурага дзі-джэя. Праблема заключалася ў тым, што ў дзетдома не было грошай на аплату работы артыстаў і арэнды апаратуры. За апаратуру Джымі заплаціў са сваёй кішэні, сам жа выступіў бясплатна. У якасці ганарару яму падарылі два мяхі беларускай бульбы.

Цяжка быць дзі-джэем у Беларусі...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## СА СТАРОГА КУФРА



# СЛУЦКІЯ СТРОІ

**Слуцкія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Цэнтральнай Беларусі. Бытавалі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя на абмежаванай тэрыторыі, што ўключала горад Слуцк (пераважна мяшчан) і навакольныя вёскі. Яму ўласцівыя аднатыпнасць форм адзення, сціпласць арнаментальнага аздаблення, перавага крамных тканін.**

**Летні жаночы гарнітур складалі кашуля, спадніца, фартух і гарсэт. Кашулю шылі з каўняром (пры нашэнні прыпадымалі вакол шыі), з рукавамі, сабранымі на каўнерцы. Спадніцу шылі з крамнай шарсцянкі або з даматканай клятчастай тканіны светлых вясёлкавых колераў, фартух — з крамнага цёмнага ці белага набіванага паркалю з нашыўкамі шырокіх паскаў карункаў на нізе. Доўгі суцэльны гарсэт цёмна-сіняга ці чорнага колеру з аблямоўкай па крыссі меў вялікі, амаль да таліі выраз, які запаўняўся вертыкальным шляхам вышыўкі кашулі і шматлікімі нізкамі пацерак. Галаўныя ўборы жанчын — вялікія з махрамі набіваныя хусткі, завязаныя ў выглядзе цюрбана.**

**У мужчынскі гарнітур уваходзілі кашуля з адкладным каўняром, ільняныя або суконныя нагавіцы, у якія запраўлялася кашуля, камізэлька. Галаўныя ўборы мужчын — саламяныя капелюшы з расшыраным верхам, футраванкі, картузы. Верхняе адзенне мужчын і жанчын значна адрознівалася: жаночую вопратку кроілі па тыпу гарсэта, да якога прытачвалі рукавы (чорныя суконныя курцікі, світы), а мужчыны насілі курты з чорнага, карычневага сукна, кажухі.**

**Падрыхтаваў да друку Дзяніс РАМАНЮК.**

# БРАМА Ў НЕБА

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

металічныя конахі, на якіх напісаны дэвіз таварыства. Справядлівасць патрабуе заўважыць, што ахвяраванні гэтыя робяцца яўрэямі даволі старанна".

У другой палове XIX стагоддзя новыя пахаванні на старых яўрэйскіх могілках рабіць ужо перасталі. Прычынай была, відаць, адсутнасць тут вольнага месца. Тэрыторыю могільніка абнеслі высокай агароджай на мураваных слупах. А паколькі знаходзіліся могілкі на высокім левым беразе Заходняй Дзвіны, то магутныя слупы агароджы добра праглядаліся з нізкага правага берага, на якім жыў мастак Марк Шагал. Менавіта іх ён і намаляваў на сваім палатне "Заканы над горадам" (1918 год), арыгінал якога зараз захоўваецца ў Маскве ў Траццякоўскай галерэі.

На жаль, да сённяшняга дня не захаваліся ні праваслаўная Спаская царква, ні старадаўнія яўрэйскія могілкі. Расцягнуты ў розныя бакі і надмагільныя камяні — мацэвы. Пра этычны бок гэтай праблемы напісана ўжо нямала, што, тым не менш, не перашкаджае па-ранейшаму па-варварску ставіцца да тых нагробкаў, якія выпадкова яшчэ можна знайсці ў горадзе. Аднак у гэтай праблемы існуе таксама і эстэтычны бок. Каменныя надмагіллі на працягу стагоддзяў складалі адметную частку пластычнага мастацтва яўрэяў-ашкеназаў. Дэкаратыўная пластыка мацэў у значнай ступені была набліжана да народнай культуры і адначасова ўбірала ў сябе стылістычныя прыкметы сваёй эпохі ды тыя ўплывы, што выпучала акаляючае асяроддзе. Сёння гісторык мастацтва, які пажадаў бы вывучаць пахавальную пластыку яўрэяў паўночна-ўсходняй Беларусі, узорау нагробкаў знайшоў бы вельмі мала. І Віцебск у ягоным даследаванні выглядаў бы амаль суцэльнай белай плямай, гэткай Атлантыдай, што затанула ў нябыце.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**



**НА ЗДЫМКУ: фрагмент карціны М. ШАГАЛА "Закаханыя над горадам". На заднім плане — слупы агароджы старых яўрэйскіх могілак.**


**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і адрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 0000 экз. Індэкс 63854. Зак. 658. Падпісана да друку 20.04.1998 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**